# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 ( 33 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2006 г.



## У НУМАРЫ:

**Стар. 2. Кроніка Ліды.**



**Стар. 4. Лідскі гістарычны каляндар. Лідскія юбіляры.**



**Стар. 9. Вынаходнік з Крупава.**



**Стар. 11. Лідскі раён - 2005.**



**Стар. 18. Лідскае піва.**

**Стар. 30. Піўныя этыкеткі Лідскага завода Пупко пачатку XX стагоддзя.**





**Стар 37. Лідскае піва пілі ў Кушлянах.**



**Стар. 38. Дзённік спецпасяленца.**

## Замова лідзянкі



З-за чорнага балота,
З-за густога чароту
Ідзе ўпотай
Панна Яснота.
У панны Ясноты
Чырвоны боты,
Блакітны вочы -
Яснеюць ночы.
Панна Яснота,
Тупні ты ботам!
Хай ліха пройдзе,
Хай людзям сойдзе
З сэрца - згрызота,
З душы - маркота,
З думак - турбота,
Са слоў - пустота,
З вачэй - самота,
З рук - лянота,
З хаты - бядота,
З двара - галота,
З народа - нядоля,
З краіны - няволя!
Хай добра будзе!
Дай, прашу, людзям
Шчодрага году,
Добрага ўмалоту,
Прыгожых красак,
Шчаслівых казак!

*Васіліса Пазнухова.*

*(На здымку лідзянка Ганна Радзько.)*




**Мейлах Пупко [1859 (1860) - 1934], гаспадар Лідскага піўзавода ў 1900-1934 гг.**
*Алесь Судар, палатно, алей, 60 х 67 см, 2006 г. Публікуецца ўпершыню.*

# Лідскі Летапісец

*Народ, які не ведае свайго мінулага, не мае будучыні*





Краязнаўчы, гістарычна-літаратурны часопіс
Выходзіць з 1997 года

№ 1 ( 33 ) СТУДЗЕНЬ - САКАВІК 2006 г.

# Упершыню ў гісторыі беларускай лінгвістыкі



У верасні 2005 г. - студзені 2006 г. у Лідскім педкаледжы упершыню ў гісторыі беларускай лінгвістыкі быў прачытаны поўны курс “Стэнаграфіі” па-беларуску. Курс прачытаў Станіслаў Суднік.

Стэнаграфія - навука пра тое, як пісаць хутка. Дагэтуль у Беларусі існавала некалькі рускамоўных курсаў стэнаграфіі, а пра беларускую сістэму стэнаграфіі гаварылася, што яна такая ж, а толькі ўлічвае асаблівасці беларускай мовы. На самай справе беларуская сістэма стэнаграфіі адрозніваецца ад рускай роўна настолькі, наколькі ўвесь беларускі правапіс адрозніваецца ад рускага, наколькі сама беларуская мова адрозніваецца ад мовы рускай.

**На здымку:** група С-2 Лідскага педкаледжа, якая праслухала курс беларускай стэнаграфіі.



**Мы просім ўсіх, хто мае цікавыя матэрыялы па гісторыі Ліды і краю, дасылаць іх на адрас: Ліда-2, п/с 7, або перадаваць у рэдакцыю.**

ПАСВЕДЧАННЕ АБ РЭГІСТРАЦЫІ № 1342

ЗАСНАВАЛЬНІК І НАВУКОВЫ КАНСУЛЬТАНТ
**Валеры Сліўкін,**
старшы навуковы супрацоўнік Лідскага гістарычна-мастацкага музея, кандыдат геаграфічных навук

РЭДАКТАР
**Станіслаў Суднік**

АДРАС РЭДАКЦЫІ:
231300, г. Ліда, вул. 1-я Навапрудская, д. 61
E-mail: naszaslowa@tut.by

**Наклад 250 асобнікаў**
**6 друк. аркушаў**

Часопіс размножаны на абсталяванні рэдакцыі.
Замова № 6
Часопіс падпісаны да друку 30. 03. 2006 г.

Падпісны індэкс 00257
Кошт падпіскі:
індывід. 3 мес.- 1740 руб.
індывід. 6 мес.- 3480 руб.
Кошт у розніцу: вольны

Аўтары цалкам адказныя за гістарычную дакладнасць сваіх матэрыялаў

# Кроніка Ліды

З пачатку 2006 года ў Лідзе на тэрыторыі былога шпіталя пачала працаваць Бальніца сястрынскага догляду.






З пачатку 2006 года ў продажы з'явіўся даведнік турыста "Ліда і ваколіцы", у якім пададзена шмат гістарычных звестак пра Лідчыну. Наклад 8 000 асобнікаў.



З 15 студзеня 2006 года ў Лідзе на тэрыторыі былога шпіталя адкрыўся новы будынак КДЮСШ.



2 лютага 2006 года лідзянін Казімір Марцінкевіч, кіровец УАЧП "Саюз-Транс" узнагароджаны дыпломам Міжнароднага саюза аўтамабільнага транспарту (МСАТ) і залатым нагрудным знакам "Лепшы кіроўца Еўропы".



З пачатку лютага 2006 года адкрыўся арыгінальны міні-маркет па вул. Тухачэўскага.



18 сакавіка 2006 года Іна Міхалюк з вершам “Беларуская мова” стала пераможцай 1-га літаратурнага конкурсу памяці Валянціна Таўлая




19 сакавіка 2006 года адбыліся выбары Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь.
Вынікі галасавання па Лідскаму раёну:
А. Лукашэнка - 87,88%;
А. Мілінкевіч - 5,14%;
С. Гайдукевіч - 3,10%;
А. Казулін - 1,18%.

21 сакавіка 2006 года з Лідскага аэрадрома ў першы палёт падняліся самалёты Л-39 пілатажнай групы “Белая Русь”.



*Самалёт Л-39 на аэрадроме*



25 сакавіка 2006 года Указам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь начальнік Лідскага раённага вузла паштовай сувязі Ала Віннічак узнагароджана медалём “За працоўныя заслугі”.

# *Кроніка айкумены*

*Лідскі гістарычны каляндар*

## студзень – сакавік

**1526 год, люты.** Па маршруце Ваўкавыск - Масты - Шчучын - Васілішкі - Ваверка - Радунь - Эйшышкі з Кракава на Вільню праехаў аўстрыйскі пасол да маскоўскага вялікага князя З. Герберштэйн.

**1706 год, студзень.** Шведскі кароль Карл XII блакаваў рускія войскі ў Гародні.

Шведскія войскі размясціліся на пастой у паўднёвых і заходніх частках Лідскага павету.

**1706 год, сакавік.** Шведы разрабавалі Ліду і наклалі на шляхту Лідскага павету кантрыбуцыю, якую аплаціў з асабістых сродкаў лідскі маршалак Міхал Аляксандровіч.

**1756 год, 12 студзеня.** Піярская школа і кляштар з Воранава (Веранова) пераехалі ў Ліду. Спрыяў пераезду староста лідскі - Ігнацы Сцыпіён дэль Кампа. Ігнат і Мар'яна Сцыпіёны падарылі лідскім манахам - піярам фальварак Пастаўшчыну і юрыдзіку ў Лідзе.

**1756 год.** Права перамяшчэння піяраў у Ліду, пацверджанае віленскім біскупам Міхалам Зянковічам, занесена ў кнігі Галоўнага Трыбуналу ВКЛ.

**1876 год, 1 студзеня.** Царкоўны млын на р. Лідзейцы аддадзены ў 12 -гадовае арэнднае ўтрыманне з выбудовай паводле зацверджанага кантракту лідскаму яўрэю Неваху Гойдзе.

**1906 год, 9 лютага.** Узбуджана дазнанне ў адносінах да селяніна Антона Францавіча Вітко абвінавачванага ў злачынстве па артыкулах 105 і 129 крымінальнага ўкладання. Даручана ротмістру Андрэеву. Антон Вітко арыштаваны і заключаны пад варту пры Лідскай паліцэйскай управе.

**11 лютага.** Узбуджана дазнанне з нагоды абвінавачання Гнесі Файфелевай Каўфман, Абрама Файфелева Каўфмана і Хаіма-Бера Абрамава Гордана ў злачынстве прадугледжаным артыкуламі 126 і 129 крымінальнага ўкладання. Вытворчасць даручана ротмістру Андрэеву. Каўфманы і Гордан арыштаваны і заключаны пад варту ў Лідскую павятовую турму.

**1906 год, сакавік.** Створаная яўрэйская контррэвалюцыйная арганізацыя клерыкалаў, мэтай якой з'яўлялася барацьба са штрайкавым рухам.

**1916 год, 1 студзеня.** У Лідзе гарадская лякарня на 25 ложкаў, яўрэйская - на 25, 1 доктар і 2 фельчары.

**1916 год, 16 студзеня.** Фельдмаршал Гіндэнбург выдаў дэкрэт аб наданні беларускай мове аднолькавых правоў з іншымі мясцовымі мовамі ў публічным, грамадскім і культурна-асветніцкім жыцці.



**Фельдмаршал Паўль фон Гіндэнбург**

**1936 год, 1 студзеня.** Уладальнік завода "Ардаль" Саламон Мелуп завербаваў штрайкбрэхераў. Сутычка з паліцыяй працягвалася ля фабрыкі 4 гадзіны, пакінулі працу і ўдзельнічалі ў сутычцы металісты "Бедлянда" і "Полянда".

**2 студзеня.** Увечар у хаце сталяра Чатовіча адбылося паседжанне партыйнага камітэта КПЗБ. Удзельнікі: інструктар Віленскага акружкама КПЗБ Лена, сакратар гаркама Станіслаў Кісель ( ? -11.1982), сакратар гаркама камсамолу Ваўкавыскі, чалец гаркама Малеўская

**3 студзеня.** Сход, адкрыла сакратар штрайкавага камітэту Малеўская, выступілі сацыяліст Пятровіч, рабочы Урбановіч, замест арыштаванага старшыні прафсаюзу і штрайкаму Балкунца абраны беспартыйны рабочы Мамчыц, яго намеснікам Якуць. Вырашана арганізавацць пікеты, каб не дапушчаць на фабрыку штрайкбрэхераў. Адказнымі прызначылі маладых рабочых Якуця, Урбановіча, камсамолку Ванду Бандарэўскую. Абралі камісію па зборы сродкаў у фонд штрайку.

**5 студзеня**. Пад аховай паліцыянтаў на фабрыку даставілі 30 штрайкбрэхераў і запусцілі станкі. Камсамолец Карабельнік устанавіў, што станкі працуюць ухаластую, а штрайкбрэхеры сядзяць у вальцовачным цэху. Штрайкавы камітэт даручыў устанавіць прозвішчы штрайкбрэхераў і абыйсці іх кватэры. Да некаторых ужылі пагрозы.

**10 студзеня.** Пасля пяці дзён халастой працы З. Мелуп адмовіўся ад сваёй задумы з "пускам" фабрыкі.

**20 студзеня.** Фабрыка пачала працаваць, набраўшы каля 200 новых рабочых (Е. Путрамент).

**13 лютага.** Штрайкбрэхераў склікалі на мітынг у кінатэатр "Маленькі" з мэтай арганізацыі свайго прафсаюза. З'явіліся 30 чалавек (Е. Путрамент).

**24 лютага.** Бескантактавая нарада гаспадароў і штрайкоўцаў праз інспектара. Мелуп адпрэчыў усё патрабаванні штрайкоўцаў.

**25 лютага.** Агульнагарадскі мітынг. Сабралася каля дзвюх тысяч чалавек (Е. Путрамент). Прынята аднагалоснае рашэнне арганізавацць усеагульны штрайк, абраны штрайкавы камітэт з 5 чальцоў працоўнага прафсаюзу (ZZZ) і 5 чалавек ад прафсаюзу працаўнікоў хімічнай прамысловасці ("Кур'ер віленскі", 3 сакавіка 1936 г.)

**26 лютага.** Ліда на аблогавым становішчы. Паліцыянты арыштавалі Якуця і Пшэвознага. Прынята аднагалоснае рашэнне арганізавацць усеагульны штрайк, абраны штрайкавы камітэт з 5 чальцоў рабочага прафсаюзу (ZZZ) і 5 чалавек ад прафсаюзу працаўнікоў хімічнай прамысловасці.

**27 лютага.** Усеагульны 24 -гадзінны Лідскі штрайк салідарнасці з штрайкаваўшымі працоўнымі фабрыкі "Ардаль". Па закліку штрайкавага камітэта на працу не выйшлі каля 4 тысяч працоўных. У кінатэатры "Эра" ў 15 гадзін адбыўся мітынг, на які сабраліся ад 2 да 6 тысяч чалавек. Мітынг адкрыў Мамчыц, выступілі 13 аратараў, у тым ліку Чатовіч, Урбановіч,генеральны сакратар працоўнага прафсаюзу ZZZ Бернацкі, Станіслаў Кісель - чалец ZZZ, Аўраам Гельман- чалец ZZZ, Баляслаў Карабач, Віктар Гульбіновіч - сакратар гімназіі і чалец працоўнага прафсаюзу. "Інтэрнацыянал" спявалі на польскай, беларускай і яўрэйскай мовах. Адбылася дэманстрацыя пад лозунгам: "Жыве чырвоная рэвалюцыйная барацьба ардаляўцаў!" На імя прэм'ера Касцялкоўскага пасланая тэлеграма з просьбай падтрымаць штрайкоўцаў. У падтрымку працоўных фабрыкі "Ардаль" выступілі рамізнікі, працаўнікі рэстаранаў, банкаў, кінатэатраў. Лісты і грашовыя сродкі адправілі працоўныя варшаўскай фабрыкі "Рыгавар", прафсаюзы шафёраў і іншыя.

У горадзе працаваў сын гаспадара на млыне і рабочыя электрастанцыі.

**2 сакавіка.** Успыхнуў штрайк на шклозаводзе "Нёман".

**4 сакавіка.** Пачаўся новы штрайк на шклозаводзе "Нёман". Даручэнні атрымлівалі ад камуніста Лысенкі Сямёна Іосіфавіча. Удзельнікі Сцефановіч Казімір Андрэевіч, Бондар Сяргей Антонавіч, Каламыцкі Мікалай Іванавіч, Будзевіч Аляксандр, Мінко Іосіф, браты Каламыцкія: Аляксандр, Іосіф і Ян, Касцюкевіч Ганна і Ніна і яе кавалер Катушонак, Бабёрык Браніслаў, Каламыцкія Лук'ян Іосіфавіч і Ян Іосіфавіч, Урбановіч Антон Карлавіч, Касцюкевіч Аляксандр Іосіфавіч. Актыўныя чальцы штрайкавага камітэту Вінцулевіч Станіслаў, Шыманскі Эдуард, Васілеўскі Людвіг, Дзікевіч, Келмуць Іосіф. Старшынём штрайкавага камітэту быў Манюшка Адам, яго правай рукой Пятроўскі Іосіф. Прыязджалі дапамагаць з фабрыкі "Ардаль" Малішэўскі і Кастусь Дубок.

**23 (24) сакавіка.** У Лідзе прайшла дэманстрацыя (штрайк) салідарнасці з штрайкоўцамі фабрыкі "Ардаль".

**26 сакавіка.** Завяршылася штрайк на фабрыцы "Ардаль". З. Мелуп змушаны быў задаволіць патрабаванні штрайкоўцаў: прыняў на працу звольненых, прызнаў класавы прафсаюз і яго правы пры прыёме і звальненні працоўных, павялічыў на 15% зарплату, устанавіў 8-мі гадзінны працоўны дзень.

**1946 год, 18 студзеня.** Адчынена аддзяленне хуткай медыцынскай дапамогі пры гарадской лякарні.

**25 студзеня.** Грынцэвіч І.А. вайсковым трыбуналам войскаў Гарадзенскай вобласці, як удзельнік польскай нацыяналістычнай арганізацыі Арміі Краёвай, асуджаны па артыкулу 63-1 УК БССР да 10 гадоў папраўча-працоўных лагераў.

**17 лютага**. Першы суботнік: 3320 (або 3200) лідзян выйшлі на аднаўленне горада.

**1966 год, 1 студзеня.** Лідскі малочна-кансервавы камбінат увайшоў у падначаленне Ўсесаюзнага аб'яднання "Саюзкансервмалако"

**1966 год, люты**. БУ рэарганізавана ў Будаўнічы трэст № 19. Кіраўніком прызначаны Ціхановіч П.М., галоўным інжынерам Логаш У.М.

**1976 год, 1 студзеня.** У горадзе камбінат бытавых паслуг з механічнай пральняй і фабрыкай хімчысткі і афарбоўкі адзення, тры атэлье індывідуальнага пашыву і рамонту абутку, філіял Гарадзенскай фабрыкі "Праца" індывідуальнага пашыву і рамонту абутку, майстэрня "Рамбыттэхнікі", СТА аўтамабіляў, гасцініца на 304 месцы, 24 сталовыя і рэстараны на 3090 месцаў, 76 крамаў. Тэхнікум і музнавучальня - 1600 студэнтаў, 14 сярэдніх школ - 11 тысяч вучняў, 22 дзіцячыя дашкольныя ўстановы -3500 дзяцей, Дом піянераў, станцыя маладых тэхнікаў, 4 ДСШ, 700 настаўнікаў. 4 кінатэатры, 4 ДК, 18 бібліятэк- 176 тыс. кніг, 45 тыс. чытачоў. Планетарый, краязнаўчы музей, 2 паркі. Гарадская бальніца -870 ложкаў, 2 паліклінікі, прыём па 25 медычных спецыяльнасцях, 211 лекараў і 680 чалавек сярэдняга медыцынскага персаналу. 3 тысячы гараджан прымаюць удзел у мастацкай самадзейнасці, 4 народныя калектывы - ансамбль песні і танца "Лідчанка", драмкалектыў ГДК, ансамбль песні і танца абутковай фабрыкі, мужчынскі хор завода "Лідсельмаш". Сетка вадаправоду 44 км, горад поўнасцю газіфікаваны.

**1976 год, 9 студзеня.** У Доме афіцэраў лідзяне сустрэліся з лётчыкам-касманаўтам Пятром Ільічом Клімуком.

**1976 год, 16 лютага.** Лідскае вытворчае аб'яднанне харчкан-цэнтратнай прамысловасці ўзнагароджана ордэнам Працоўнага Чырвонага Сцяга.

**1976 год, сакавік**. Выбары народных суддзяў.

**1986 год, 28 лютага.** Польскі Народны Тэатр з Вільні паставіў у Лідзе спектакль "Zagloba svatem".

**1996 год, 28 студзеня.** Асвечаны дольны храм праваслаўнай царквы парафіі Святога Панцеляймона, як святыня Беларускай Аўтакефальнай царквы.

**1996 год, 23 лютага.** У раёне 22 СШ, 12 базавых і 8 пачатковых школ - 6375 вучняў. У Бярозаўскім ВВК 280 школьнікаў па 6 спецыяльнасцях. ДЮСШ - 56 секцый, 728 навучэнцаў. Дзіцяча-юнацкі цэнтр -580 чалавек. Пры 10 школах інтарнаты - 120 вучняў. 27 дзіцячых дашкольных установаў - 1542 дзіцяці. 58 дзяцей - пад апекай, з іх 21 - круглыя сіроты,у 37 дзяцей бацькі пазбаўлены бацькоўскіх правоў. 830 настаўнікаў і выхавальнікаў, у 633 з іх вышэйшая і незакончаная вышэйшая адукацыя, 12 сацыяльных педагогаў, 3 псіхолагі. 46 настаўнікаў вышэйшай і 1-й катэгорыі. Прагімназічныя класы пачатковай ступені навучання ў СШ № 1 г. Бярозаўкі.



***Лідская праваслаўная царква Святога Панцелеймона***

**1996 год, 7 сакавіка.** Лідскі гарвыканкам рашэннем № 38 перадаў будынак былога планетарыя ў бязвыплатнае карыстанне праваслаўнай рэлігійнай грамадзе Свята-Міхайлаўскай царквы са згоды кардынала Свёнтака К.Я. і біскупа Гарадзенскай рымска-каталіцкай епархіі Кашкевіча А.А.

# Лідскія юбіляры 2006 года

**НАРБУТ Юстын** (1776 - 25.09.1845). Аўтар двух капітальных даследванняў па гісторыі польска-беларуска-літоўскай дзяржавы: “Rys perwiastkow narodu litewskiego”, Гародня, 1818 і “Dzieje wewnetrzne narodu litewskiego z czasow Jana Sobieskiego i Augusta II, krolow polskich”, 2 выд., Вільня,1843.

**ПЯКАРСКІ Ян** (1816-22.05.1860). Нарадзіўся ў Лідзе, камічны тэатральны акцёр. У 1835 г. выступаў у Слоніме ў трупе Ў. Вярбіцкага. З 1838 г. у трупе З. Маліноўскага ў Камянцы-Падольскім. У 1843-54 гг. уваходзіў у трупу П. Зялінскай у Жытоміры. Стварыў уласную малую трупу. У 1856 г. арганізаваў свой тэатр у Камянцы-Падольскім, быў яго дырэктарам, іграў на яго сцэне. У 1859 г. зноў выступаў у трупе П. Зялінскага.

**КАЯЛОВІЧ Іосіф Іосіфавіч** (1836-1920 ?). Сын святара Гарадзенскай губерні. Скончыў Літоўскую духоўную семінарыю (1851-1857). Вывучаў і, магчыма, валодаў грэцкай, лацінскай, французскай, нямецкай і яўрэйскай мовамі.

**1857, 15 чэрвеня** - прызначаны настаўнікам Кобрынскай духоўнай вучэльні. Выкладаў рускую мову ва ўсіх трох аддзяленнях і рускую гісторыю ў вышэйшым аддзяленні.

**1860, 5 лістапада**- прызначаны на месца святара ў Лідзе, рукапаложаны па прызначаным месцы Іосіфам Сямашкам.

**1860, 26 снежня** -прызначаны законанастаўнікам пры дваранскай вучэльні. Жалаванне 150 руб.

**1862** - прызначаны памочнікам Лідскага Дабрачыннага і цэнзарам пропаведзяў святарства Лідскага і Шчучынскага дабрачынняў. Дэпутат спраў духоўных па ўсіх прысутных месцах г. Ліды.

**1863** - чалец Камітэта па прыстасаванні праваслаўных цэркваў.

**1863, 20 верасня** - узнагароджаны Мітрапалітам Літоўскім і Віленскім Іосіфам Сямашкам набедраннікам.

**1864** - законанастаўнік Лідскай прыходскай вучэльні.

**1865** - законанастаўнік жаночай пасляабедзеннай змены пры Лідскай прыходскай вучэльні.

**1866, 31 студзеня**- узнагароджаны за стараннасць і дбайнае праходжанне пасады законанастаўніка ў Лідскай 2-х класнай вучэльні 100 рублямі.

**1866, 12 сакавіка** - прызначаны спраўнікам пасады Лідскага Дабрачыннага і дырэктарам турэмнага аддзялення.

**1866, 27 сакавіка** - узнагароджаны “за рэўнасць па службе” фіялетаваю скуфіёю.

**1866, 24 чэрвеня** - зацверджаны на пасадзе Лідскага Дабрачыннага.

**1866** - пераведзены на протаіярэйскае месца ў Лідскай саборнай царкве.

**1869, 9 кастрычніка**- абраны святарствам на выбарах на пасаду Лідскага Дабрачыннага.

**1869, 24 кастрычніка** - рэзалюцыяй Макарыя зацверджаны на пасадзе Дабрачыннага на 4 гады.

**1869, 5 лістапада** - па прапанове Архібіскупа Літоўскага і Віленскага Макарыя ўзведзены ў сан протаіярэя.

**1869, 12 снежня** - пасвечаны ў сан протаіярэя Іосіфам, епіскапам Ковенскім, вікарыем Літоўскай епархіі, атрымаў цёмна-бронзавы медаль у памяць уціхамірвання рокашу ў 1863-1864 гг. на стужцы дзяржаўных колераў

**1870, 17 кастрычніка** - па сведчанні епіскапа Іосіфа, рэвізаваўшага ў 1870 г. Лідскую царкву, абвешчана падзяка Епархіяльнага начальства.

**1871, 14 лістапада** - абвешчана падзяка ад імя апекуна Віленскай вучэбнай акругі за поспехі вучняў Лідскай павятовай вучэльні ў Законе Божым.

**1873, 8 красавіка** - узнагароджаны аксамітнаю фіялетаваю камілаўкай.

**1873, 9 кастрычніка** - абраны святарствам на пасаду Лідскага Дабрачыннага.

**1873, 1 лістапада** - рэзалюцыяй архіепіскапа Макарыя зацверджаны на пасадзе Лідскага Дабрачыннага на другое чатырохгоддзе.

**1877, 26 сакавіка** - узнагароджаны наперстным крыжом ад Найсвяцейшага Сінода.

**1877, 13 кастрычніка** - абраны святарствам на пасаду Лідскага Дабрачыннага на трэцяе чатырохгоддзе.

**1879, 3 лютага**- узнагароджаны Ордэнам Святой Ганны 3-й ступені за 12-гадовае запар праходжанне пасады Дабрачыннага.

**1881, 9 лістапада** - прызначаны да працягу пасады Лідскага Дабрачыннага.

**1883, 15 траўня** - супрылічаны за службу па духоўным ведамстве да Ордэна Святой Ганны 2-ой ступені.

**1885, 22 сакавіка** - загадам Міністра Народнай Асветы абвешчана падзяка за старанную працу па народнай адукацыі.

**1886, 5 красавіка** - прызначаны духоўным інспектарам за выкладаннем Закона Божага ў вучэльнях Міністэрства Народнай Асветы па Лідскім Дабрачынні.

**1889, сакавік** - прызначаны старшынём Лідскага павятовага аддзялення Епархіяльнай вучэльнай Рады.

**1890, 20 студзеня** -пераведзены ў Віленскі Мікалаеўскі кафедральны сабор.

**1890, 16 сакавіка** - прызначаны чальцом Рэвізійнага камітэту па рэвізіі справаздач духоўнага ведамства.

**1890, 1 красавіка** - супрылічаны да ордэна Святога Ўладзіміра 4-ай ступені за выдатна-старанную службу па духоўным ведамстве.

**1890, 21 красавіка** - перамешчаны ў Ліду на пасаду настаяцеля Сабора.

**1890, 6 чэрвеня** - прызначаны цэнзарам пропаведзяў па Лідскім Дабрачынні.

**1890, 6 ліпеня** - прызначаны старшынём Лідскага павятовага аддзялення Літоўскай Епархіяльнай вучэльнай Рады.

Праваслаўны святар у Лідзе з 1860 па 1920 гг. Лідскі Дабрачынны (1866-1890), протаіярэй з 1866 г., настаяцель Лідскага Сабора з 1890 г. Узнагароджаны Ордэнамі Святой Ганны 3-яй ступені (1879), Святой Ганны 2-ой ступені (1883), Святога Ўладзіміра 4-ай ступені (1890).

Брат **Каяловіч Міхаіл Восіпавіч** - скончыў семінарыю пры Пецярбургскай духоўнай акадэміі, выкладаў у Кобрынскім духоўнай вучэльні, у Рыжскай і Пецярбургскай духоўных семінарыях, у Пецярбургскай духоўнай акадэміі (1862-1891). У акадэміі выкладаў рускую царкоўную і грамадзянскую гісторыю. Гісторык Заходняй Русі.

**ЛАЗОЎСКІ Мікалай Фёдаравіч.** Нарадзіўся 20.2.1926 г. у в. Лазяны Лідскага раёна, у сям'і селяніна. Скончыў 5 класаў сельскай школы. З ліпеня 1944 г. служыў у шэрагах Чырвонай Арміі. Удзельнічаў у вызваленні Польшчы, штурме Берліна. Мае баявыя ўзнагароды.

З 1951 г. жыве ў г. Лідзе. Доўгі час працаваў на Лакафарбавым заводзе рабочым, затым - мастаком-афармляльнікам. Атрымаў сярэднюю адукацыю ў вячэрняй школе. Вучыўся ў Маскоўскім завочным народным універсітэце ім. Крупскай на аддзяленні выяўленчага мастацтва.

Самадзейны мастак. Актыўны ўдзельнік мастацкіх выстаў. Напісаў каля 100 карцін у тэхніцы алейнага жывапісу, у асноўным - гэта пейзажы Лідчыны. Значная частка работ Лазоўскага набытая жыхарамі г. Ліды, каля 10 работ знаходзіцца за мяжой: у Расіі, Польшчы, Швецы.

Тры карціны ў фондах Лідскага гістарычна - мастацкага музея.



***Мікола Лазоўскі***

**ЛЯЛЬКО Крысціна Аляксееўна.** Нарадзілася 30.03.1956 г. у в. Хадзюкі Лідскага раёна ў сялянскай сям'і. Скончыла СШ у Тарнове. Працавала бухгалтарам сельсавета ў Радівонішках (1973-74). Студэнтка аддзялення беларускай і рускай мовы і літаратуры філфака БДУ (1974-79). Навуковы супрацоўнік Літаратурнага музея ім. Я. Купалы (1979-83), літсупрацоўнік аддзела крытыкі штотыднёвіка "Літаратура і мастацтва" (1983-84). З 1984 г. працуе рэдактарам аддзела літаратуры ў часопісе "Беларусь", аднача-сова з 1995 г. - рэдактар-выдавец часопіса "Наша вера". Творчасць пачыналася з вершаў- першы ў лідскай газеце "Уперад" у 1971 г. Прозу публікуе з 1979 г. Выдала кнігі прозы "Дарога пад гару" (1985, прэмія Ленінскага камсамолу Беларусі ў 1986), "Світанак над бярозамі" (1989), зборнік казак у апрацоўцы "Хітрэй свету не будзеш" (1988). Аўтар сцэнарыя кароткаметражнага мастацкага фільма "Лёгкі хлеб" (1987). У перакладах на рускую мову кнігі выйшлі ў Маскве (1989) і ў Менску (1993). Сябар Саюза беларускіх пісьменнікаў (1983).



***Крысціна Лялько***




***Часопіс "Наша вера"***

***110 гадоў з дня нараджэння Вацлава Шукевіча***

# Вынаходнік з Крупава

Другая Сусветная вайна раскідала жыхароў 2-й Рэчы Паспалітай па ўсім свеце.

Многія аселі ў Злучаных Штатах. Адным з іх быў інжынер Вацлаў Шукевіч з маёнтка Крупа (Крупава), Лідскага павету, які ад XVII стагоддзя належаў сям'і Шукевічаў. Падчас ваенных дзеянняў дом і пабудовы маёнтка былі спалены, а ставы, у якіх гадаваліся карпы, засыпаны. Сёння там свінаферма і пескавішча (кар'ер).

**Інжынер Шукевіч вядомы перш за ўсё, як адкрывальнік польскай сістэмы вытворчасці сінтэтычнага каўчуку і піянер тэхналогіі палімераў (пластмасаў).**

Вацлаў Шукевіч нарадзіўся ў горадзе Аліце ў 1896 г., а памёр у Форт-Лаўдэрдалі (штат Фларыда ў ЗША) у 1992 годзе, пражыўшы 96 гадоў. Парэшткі яго спачылі ў Алеі заслужаных на могілках у Амерыканскім Чанстахове ў Дайлестоўне (штат Пенсільванія).

Жыццё меў цікавае, бурлівае, поўнае расчараванняў, але і поўнае дасягненняў. Быў выхаваны бацькамі ў духу павагі да іншага чалавека і да людской працы. Некалі, калі ён, будучы яшчэ маладым хлопцам, няветліва звярнуўся да старога конюха, бацька загадаў папрасіць у яго прабачэння і пацалаваць у спрацаваную руку. Навуку тую ён запомніў на ўсё жыццё. У школу Шукевіч пайшоў у Вільні, пасля чаго закончыў царскі корпус кадэтаў у Пецярбургу.

Яго дзед, Томаш Шукевіч, быў у Лідзе чальцом Камітэту паўстання 1863 г., за што быў сасланы ў Сібір.

У 1916 г. Вацлаў быў прызваны ў Адэсе ў афіцэрскую артылерыйскую школу і ўдзельнічаў у франтавых баях падчас 1-й Сусветнай вайны.

У 1917 годзе ўвайшоў у беларускі нацыянальны рух на поўдні Украіны (Адэса і ваколіцы), дзе было сканцэтравана каля 40 тысяч вайскоўцаў, прызваных з тэрыторыі Беларусі. Быў афіцэрам Беларускага корпуса.

Пасля заключэння Берасцейскага міру і адмовы нямецкага камандавання прапусціць беларускія фармаванні па сваіх тылах на Беларусь для арганізацыі барацьбы супраць бальшавікоў Вацлаў Шукевіч нелегальна прабраўся ў Ліду, дзе пад канец 1918 г., як падпаручнік, пачаў арганізоўваць Лідскую самаабарону. Задачай гэтай арганізацыі было падтрыманне парадку ў Лідзе і Лідскім павеце падчас адходу нямецнага войска і пасля яго адходу, арганізацыя барацьбы супраць надыходзячых з усходу бальшавікоў, а таксама вярбоўка дабраахвотнікаў у Літоўска-Беларускія дывізіі. Дзейнасць самаабароны дакладна апісана ў кнізе Юзафа Дзічканца "Самаабарона Лідчыны", выдадзенай у 1938 г. газетай "Ziemia Lidzka" і перавыдадзенай у 1992 г. варшаўскім офісам выдавецтва "Грыф" (нажаль без фатаграфій).



***Вацлаў Шукевіч***

Пра ўдзел Шукевіча ў баях Літоўска-Беларускіх дывізій згадваецца ў паэме Камілы Эміліі Макрэцкай "Год 1919, або песня пра дывізіі Літоўска-Беларускія":

*... Доля ці яснай будзе, ці строгай,*
*Толькі адзінага ведалі Бога*
*Капрал Макрэцкі, малады* ***Шукевіч****,*
*Мейлум, Шкоп, Бляха, Шнэам, Шалевіч.*
*Сталі ядрыцай той сілы збройнай,*
*Што паміж розных бунтаў і войнаў*
*Гонар здабылі, велькую славу...*

Падчас польска-расейскай вайны Вацлаў Шукевіч браў удзел у бітве пад Варшавай ў якасці камандзіра артылерыйскай батарэі на коннай цязе пры 13-м палку ўланаў. Быў узнагароджаны "Крыжам Валечных". Пасля заканчэння ваенных дзеянняў паступіў у Варшаўскую Палітэхніку і закончыў факультэт хімічнай інжынерыі.

У 1933 г. Вацлаў Шукевіч заняў пасаду кіраўніка аддзелу сінтазу каўчуку ў дзяржаўным Хімічным даследчым інстытуце. Пасля двух гадоў інтэнсіўнай працы вынікі былі мізэрныя.

Крытыкі абвінавачвалі Шукевіча, што ён

з’яўляецца “ўпартым ліцьвінам”, што не слухае парадаў, што мае аднакірунковае здуменне. Справа дайшла да тагачаснага прэзідэнта РП праф. Ігнацыя Масціцкага (аднаго з заснавальнікаў інстытута), які вырашыў, што даследванні будуць фінансавацца яшчэ адзін год. Праз некалькі месяцаў быў атрыманы жаданы вынік, г.зн. выхад бутадзену са спірту павялічыўся да ўзроўню, пры якім метад мог мець практычнае прымяненне. Бутадзен, які паддаваўся палімерызацыі, даваў сінтэтычны каўчук, які называўся ў Польшчы KER-ам*. Атрыманы патэнт быў уласнасцю часткова ўраду РП, а часткова Шукевіча.

У 1936 г. Таварыства вытворцаў спірту абвясціла прапанову аб будаўніцтве фабрыкі KER-у ў Дубіцы (Дэмбіцы), першай у Польшчы, а пасля Германіі і СССР – трэцяй у свеце. Шукевіч надзіраў за будаўніцтвам фабрыкі, а пасля заняў пасаду яе генеральнага дырэктара. Пасаду гэтую займаў ажно да пачатку 2-й Сусветнай вайны, калі, як капітан рэзервы, быў вымушаны з войскам перайсці румынскую мяжу. Знаходзіўся там без сродкаў для жыцця.

Шчаслівым выпадкам удалося яму завязаць кантакты ў Італіі і там запусціць фабрыку сінтэтычнага каўчуку па сваёй методзе.

Пасля ўступлення Італіі ў вайну, каб пазбегнуць арышту, Шукевіч выехаў цераз Партугалію ў Бразілію, адкуль з многімі цяжкасцямі прыехаў у Злучаныя Штаты пад канец 1941 г. Урад ЗША быў вельмі зацікаўлены ў вырабе сінтэтычнай гумы, так патрэбнай для збройнай прамысловасці. Польскі метад браўся пад сур’ёзную ўвагу, але, нажаль, не мог выйграць палітычных гульняў з нафтавай прамысловасцю, нягледзячы на падтрымку ўплывовых сенатараў. Будаўніцтва фабрыкі ў Філадэльфіі пасля перадолення многіх супраціваў было скончана за некалькі месяцаў да канца вайны. І тады аказалася, што рынак ЗША быў насычаны каўчукам, і прадукцыя фабрыкі засталася незапатрабаванай. Гэта было для Шукевіча вялікім расчараваннем, як адносна прэстыжу, так і ў фінансавым плане.

У 1947 г. Вацлаў Шукевіч перавёз з Польшчы жонку і дваіх дзяцей, якіх пакінуў у 1939 годзе, ідучы дабраахвотнікам у войска, таму што так яму дыктавала сумленне. Пазней працаваў інжынерам-хімікам у амерыканскай прамысловасці штучных матэрыялаў. Не гледзячы на тое, што базавую школу закончыў на рускай мове, захапляўся польскай гісторыяй, эканомікай і



***Крупаўскі касцёл, пабудаваны ў 1922-24 гг. На яго пабудову сярод іншых значныя сродкі выдзелілі Шукевічы.***

палітыкай. У першыя паваенныя гады напісаў дзве кніжкі, на тую тэму, якіх, аднак, ніколі не мог выдаць - яны былі скіраваны на паваенны польскі рынак у краі. Апублікаваў у ЗША шэраг артыкулаў, быў сузаснавальнікам польскай газеты “Свет” у Нью-Ёрку, актыўным чальцом Таварыства Польскіх інжынераў і Польскага навуковага інстытута.

Час будаўніцтва і запуску фабрыкі ў Дубіцы быў для інж. Шукевіча часам напружанай працы і пастаяннага недахопу часу. Каб мець магчымасць, як мага хутчэй дабрацца з Дубіцы да Крупава, прылятаў самалётам, кружыў над домам і апускаў на малым парашуце картку з інструкцыямі для сям’і. Маці яго выбягала на ганак і задзіраючы галаву ламала рукі з перажывання, што самалёт зачэпіцца за вершаліны дрэваў. Пасля гэтага прызямляўся на аэрадром у Лідзе, куды высылалі па яго коней. Навакольныя людзі запомнілі яго, як таго, які ў 1939 г. адляцеў на сваім самалёце, каб болей не вярнуцца.

Фабрыка ў Дубіцы, запушчаная пасля заканчэння ваенных дзеянняў у 1949 г., закончыла вытворчасць каўчуку ў 1956 г. У 1958 г. пачалася вытворчасць каўчуку на хімічных заводах у Асвенцыме, але ўжо па зменена й тэхналогіі. За заслугі перад краем інж. Шукевіч быў узнагароджаны “Залатым Крыжам Заслугі” (перад вайной) і Камандорскім крыжам ордэна “Адраджэння Польшчы” (пасля вайны). Стараўся выхоўваць дзяцей у польскім духу. У доме яго сына, які жыве ў Вашынгтоне, на сцяне вісіць старая карта Польшчы, на якой паказана Крупава.

***Аліна Сурмацкая-Шчасьняк, пляменніца.***

*(Пераклад і рэдакцыя С. Судніка.)*

---

* **KER** - назва польскіх сінтэтычных каўчукаў, будучы скарачэннем назвы ***ка****ўчук* ***эр****ытрэнавы* (бутадзенавы), якое першапачаткова абазначала бутадзенавы каўчук, што ўжо не вырабляецца і пазней KERS абазначаў наогул стырэнавы каўчук, а з дадаткам адпаведных літараў і знакаў – яго спецыяльныя тыпы).

**Андрэй Худык**

# Лідскі раён – 2005

## Сацыяльна-эканамічны партрэт

**(Даклад на падвядзенні вынікаў сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна ў 2005 г.)**



У чым наша нацыянальнае багацце? Чым мы ганарымся? Адказ дае само жыццё. Гэта, першым чынам, вынікі нашай агульнай працы. Гэтаму і прысвечана наш сённяшні сход.

Сёння мы падвядзём вынікі працы за год, прааналізуем вынікі, адзначым і заахвоцім працу лепшых калектываў і працаўнікоў раёна.

Варта адзначыць, што мінулыя пяць гадоў былі, як для рэспублікі, так і для Лідчыны перыядам дынамічнага развіцця ва ўсіх кірунках.

Дзякуючы прадуманай і ўзважанай палітыцы Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі ў нашай краіне паступальна развіваецца эканоміка, адраджаецца сяло, праводзіцца магутная сацыяльная палітыка, палітыка ў імя чалавека.

У адпаведнасці з праграмнымі дакументамі былі вызначаныя прыярытэты развіцця краіны. Гэта:

о Актывізацыя інавацыйнай і інвестыцыйнай дзейнасці;

о Развіццё аграпрамысловага комплексу;

о Нарошчванне экспарту тавараў і паслуг;

о Далейшае развіццё жыллёвага будаўніцтва;

о Фармаванне эфектыўнай сістэмы аховы здароўя.

Зыходзячы з гэтага было вызначана і развіццё Лідчыны.

Для дасягнення пастаўленых мэтаў раённы выканаўчы камітэт сканцэнтраваў сваю працу на фінансавым аздараўленні прадпрыемстваў раёна, актывізацыі інвестыцыйнай дзейнасці, якая забяспечвае павышэнне ўзроўню канкурэнтаздольнасці прадукцыі, рэсурсазберажэнне.

Паказаныя кірункі вызначалі развіццё рэальнага сектара эканомікі і забяспечылі станоўчую дынаміку па ўсіх асноўных параметрах прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця Лідскага раёна.

За пяць гадоў аб'ём прамысловай вытворчасці ўзрос на 23,4%, у той жа час у 2005 г. - на 14,7%, што дало асноўны прырост па пяцігодцы.

Аб'ём экспарту ў раёне вырас на 45,8%. Больш 32% прадукцыі экспартуецца.

Знешнегандлёвае сальда станоўчае і павялічылася з 14,1 млн. дол. ЗША ў 2001 годзе да 34,0 млн. дол. ЗША ў 2005 г.

За 2005 г. у прамысловасці атрымана каля 26 млрд. руб. чыстага прыбытку, тады як у 2004 г. было каля 2-х млрд. страт.

2005 г. быў асабліва паспяховым для акцыянерных таварыстваў “Лідаграпраммаш”, “Лідскае піва”, Мінойтаўскага рамонтнага завода. Трыццаць пяць прадпрыемстваў з сарака нарасцілі сваю вытворчасць у адносінах да 2004 г.

Сабрана 206 камбайнаў, 73 аўтобусы. У 1,5 раза павялічыўся выпуск зборных жалезабетонных вырабаў, камбікорму, маянэзу. У 1,8 раза -лекавых сродкаў. Павялічаны выпуск па 42-х найменнях прадукцыі нашых прадпрыемстваў.

У той жа час чатыры прадпрыемствы за год скарацілі аб’ёмы вытворчасці: абутковая фабрыка, завод электравырабаў, “Лідсельмаш” і “Лідрамбуд”.

Прычыны нестабільнай працы гэтых прадпрыемстваў нам вядомыя. Вызначаныя шляхі іх вываду з крызіснай сітуацыі, але гэта праца не аднаго дня. У той жа час, хачу звярнуць увагу новых кіраўнікоў, а таксама калектывы гэтых прадпрыемстваў, што ад вашай ініцыятывы залежыць многае. Хто, як не вы, на месцах, лепш ведае праблемы, слабыя месцы і рэзервы вашай вытворчасці.

Вырабляць прадукцыю, але не прадаваць яе - бессэнсоўна. Сёння на складах нашых прадпрыемстваў назапасілася прадукцыі на 47 млрд. руб. - гэта практычна месячны аб’ём выпуску.

Міжнародныя патрабаванні да якасці прадукцыі, якая выпускаецца, прымушаюць мяняць наша стаўленне да сваіх тавараў, а без гэтага заваяваць рынак нельга. Таму вядзецца праца па абнаўленні асартыменту, паніжэнні сабекошту. Толькі ў 2005 г. 12 нашых прадпрыемстваў укаранілі міжнародную сістэму якасці ў адпаведнасці са стандартамі ICA-9001.

Мадэрнізацыя і тэхнічнае пераўзбраенне - гэта будучыня прадпрыемства. Нажаль, тэхналагічнае абсталяванне зношана на 86%. На старым абсталяванні нельга вырабіць канкурэнтаздольную прадукцыю і скараціць выдаткі. Рашэнне пытанняў техпераўзбраення - гэта заклад выйсця на ўзровень рэнтабельнасці 14,5%.

Таму раённым выканаўчым камітэтам распрацавана інвестыцыйная праграма, паводле якой у 2005 г. 35 млрд. руб. накіраваны ў прамысловасць, больш 22-х млрд. руб. - у сельскую гаспадарку, 15 млрд. руб. - у будаўнічую галіну, больш 27-мі млрд. руб. - на будаўніцтва жылля, у транспарт і гандаль - па 2 і 3 млрд. руб. адпаведна, у сацыяльную сферу і энергетыку - больш 32 млрд. руб.

Заданне раёнам выканана. У бягучым годзе ў гэтым кірунку трэба весткі працу больш актыўна. Тэрміновай мадэрнізацыі патрабуе абсталяванне на заводзе электравырабаў, доследным заводзе “Нёман”, на абутковай і мэблевай фабрыках, “Лідсельмашы”, “Харчканцэнтратах”, шклозаводзе.

Напрыклад, “Лідскае піва” за апошнія тры гады ў тэхпераўзбраенне ўклала больш за 30 млрд. руб., у выніку сёння яно мае рост аб’ёмаў вытворчасці і прыбытковую працу.

У цэлым па раёне за 2005 г. атрымана рэнтабельнасць 7,9 %, што ў 1,8 раза вышэй за ўзровень 2004 г., за кошт рэалізацыі мерапрыемстваў па энергазахаванні і за кошт паніжэння выдаткаў на вытворчасць.

Абарона бізнэс-планаў прадпрыемстваў у раённым выканаўчым камітэце паказала, што не ўсе мэтанакіравана працуюць у гэтым кірунку. Таму кіраўнікам шэрагу прадпрыемстваў пастаўлены задачы па загрузцы наяўных вытворчых магутнасцяў, павелічэнні заработнай платы, пошуку новых рынкаў збыту.

Тым больш, што выканкамам у гэтым кірунку аказваецца рэальная дапамога: выдадзены рэкламныя буклеты “Прамысловы комплекс Лідскага раёна”, адкрыты сайт у Інтэрнэце, створаны перасоўны рэкламны стэнд для прадстаўлення яго на міжнародных і міжрэгіянальных выставах, арганізаваная выстава-прэзентацыя “Прамысловы комплекс Лідскага рэгіёна”.

Адчынены гандлёвыя дамы ў горадзе Алматы (Казахстан), Чыстопаль (Татарстан), у Маскве.

Толькі ў 2005 годзе Лідскі раён наведалі дэлегацыі больш 10-ці дзяржаў, як далёкага, так і блізкага замежжа.

Дзякуючы гэтаму прадукцыю прадпрыемстваў Лідскага раёна стала магчымым экспартаваць больш, чым у 40 краін свету: фарбы, лакі, фталевы ангідрыд, сельскагаспадарчая тэхніка, акуляравая оптыка, люмінісцэнтныя свяцільнікі, вырабы са шкла і крышталю, харчовыя канцэнтраты, піва, сухое малако.

Сельская гаспадарка з’яўляецца важным складнікам эканомікі. Яна дае каля 10% валавога ўнутранага прадукту і з’яўляецца пастаўшчыком сыравіны для 30% прамысловасці краіны.

Дзейсным быў 2005 г. для сельскагаспадарчых арганізацый раёна. Імі выраблена валавой прадукцыі на суму 55,9 млрд. руб., што на 15,9% вышэй за ўзровень 2004 г. пры прагнозным заданні росту 12%.

Найбольшы прырост прадукцыі атрымалі: сельгаспрадпрыемствы “Крупаўскае”, “Мажэйкава”, “Пескаўцы” і іншыя.

Летась сабрана 71,3 тыс. тон збожжа, што ў параўнанні з 2004 г. больш на 4%. Павелічэнне аб’ёмаў вытворчасці збожжа - гэта вынік мэтанакіраванай працы вяскоўцаў па павышэнні культуры земляробства, павышэнні ўраджай-

насці збожжавых і зернебабовых культур з 30,5 да 35,1 ц/га.

Па выніках рэспубліканскіх спаборніцтваў за дасягненне высокіх паказчыкаў на ўборцы ўраджаю 2005 г. збожжавых і зернебабовых культур Лідскае раённае сельскагаспадарчае ўнітарнае прадпрыемства "Мажэйкава" прызнана пераможцам у рэспубліканскім спаборніцтве і прэміравана на рэспубліканскім свяце "Дажынкі-2005".

У мінулым годзе ўзрасла ўраджайнасць масласем'я рапсу, цукровых буракоў, бульбы, гародніны, ільнovалакна.

Павялічаны аб'ёмы вытворчасці жывёлы і птушкі на 24%, малака на 12%. Больш закуплена жывёлы і птушкі на 23%, малака - на 9%.

З 15 сельгаспрадпрыемстваў раёна 14 за 2005 г. павялічылі аб'ёмы вытворчасці малака. Найбольшую прыбаўку па гэтым паказчыку забяспечылі такія прадпрыемствы, як "Ніва", "Крупаўскае", птушкафабрыка, "Пескаўцы", "Світанак-Мыто".

Узрасла прадуктыўнасць дойнага статку. Сярэдні ўдой малака на карову павялічыўся на 382 кг. Больш за 4 тысячы кілаграмаў малака надаілі ад адной каровы ў сельгаспрадпрыемствах "Ніва" і птушкафабрыка.

Сярэдняя яйканоснасць курэй-нясушак павялічылася на 12%, што дазволіла павялічыць вытворчасць яйкаў на 54%.

За мінулы год колькасць пагалоўя буйной рагатай жывёлы павялічылася на 1,6 тысячы, свіняў - на 2 тысячы галоваў.

Нажаль, нашыя паказчыкі на фоне рэспублікі і вобласці не самыя высокія.

Дзяржава ўкладвае ў сельскую гаспадарку значныя сродкі, у тым ліку і ў матэрыяльна-тэхнічнае абсталяванне. Таму неабходна, каб аддача была вялікая.

Толькі за 2005 г. сельгаспрадпрыемствамі раёна было набыта 17 высокапрадукцыйных збожжаўборачных камбайнаў і 17 трактароў. Ужо ў бягучым годзе набыта яшчэ 10 трактароў.

Цалкам відавочна, што вызначаных вынікаў можна дасягнуць, толькі ствaрыўшы нармалёвыя ўмовы для жыцця і працы, прыцягваючы новыя, кваліфікаваныя кадры, моладзь. З гэтай мэтай распрацавана дзяржаўная праграма развіцця сяла, у рамках якой прадугледжваецца будаўніцтва аграгарадкоў: сельскія населеныя пункты будуць пaступова пераўтварацца і добраўпарадкоўвацца. Яны павінны стаць цэнтрамі ўсяго сельскага жыцця, актыўнымі правадырамі новых тэхналогій і высокіх сацыяльных стандартаў.

Летась у нашым раёне пабудаваны першы аграгарадок у "Мажэйкаве". Сёння - гэта добраўпарадкаваны населены пункт, дзе створаныя неабходныя вытворчыя і бытавыя ўмовы. Мажэйкава прызнана пераможцам абласнога спаборніцтва сярод сельскіх населеных пунктаў па добраўпарадкаванні.

У адпаведнасці з дзяржаўнай Праграмай развіцця сяла на наступную пяцігодку, распрацавана раённая Праграма, паводле якой павелічэнне аб'ёмаў вытворчасці сельскагаспадарчай прадукцыі мяркуецца ажыццяўляць у асноўным за лік інтэнсіўнага вядзення гаспадаркі, рацыяналізацыі структуры засеву плошчаў, прадуктыўнасці палёў і ферм.

Жыллёвае будаўніцтва таксама з'яўляецца важным кірункам сацыяльнага развіцця.

За перыяд з 2001 па 2005 год у раёне ўведзена ў эксплуатацыю 208,5 тыс. м2 жылля (1163 кватэры), у тым ліку ў сельскай мясцовасці 53,9 тысячы м2 (558 кватэр), у гарадской - 154,6 тысяч м2 (605 кватэр). У той жа час толькі за 2005 г. пабудавана 62 тысячы м2 жылля.

У мінулым годзе будаўнічым комплексам раёна выканана падрадных работ на суму 67,2 млрд. руб. або 107,3% да 2004 г. у супастаўных цэнах.

З 24-х будаўнічых арганізацый раёна 18 забяспечылі рост аб'ёмаў будаўніча-мантажных работ. Нажаль, страціў сваю былую славу і моц трэст № 19. Па выніках 2005 г. аб'ём будаўніча-мантажных работ скараціўся на 21,6%.

Выканкам ускладае адпаведныя надзеі на новага кіраўніка гэтай арганізацыі, які прызначаны ў гэтым месяцы.

На наступныя гады перад будаўнічым комплексам Лідчыны стаяць вельмі вялікія задачы, выкананне якіх абавязкова. Гэтае, першым чынам, павелічэнне аб'ёмаў жыллёвага будаўніцтва, як у горадзе, так і на сяле. Толькі ў 2006 г. плануецца пабудаваць у раёне 705 кватэр. У першую чаргу будуць пабудаваныя кватэры для неабароненай катэгорыі грамадзян - шматдзетных сем'яў. У 2005 г. стаяла на ўліку 187 такіх сем'яў, 92 з іх уключаны ў склад кааператываў, якія будуюцца, 43 палепшылі ўмовы шляхам будаўніцтва і куплі жылля на другасным рынку.

За 2005 г. выдзелена 5 кватэр сацыяльнага карыстання. З іх 3 -для ўдзельнікаў Афганскіх падзей, 1 - удзельніку Вялікай Айчыннай вайны, 1 - сіраце. 4 удзельнікі афганскіх падзей уключаныя ў склад ЖБК. 19 сем'ям налічана аднаразавых бязвыплатных субсідый на суму 301 млн. руб. Яе атрымалі шматдзетныя сем'і, інваліды, ветэраны і грамадзяне, пастаўленыя на ўлік да 1980 г.

Наперадзе здача акушэрскага корпуса. Будуць працягнуты работы па добраўпарад-

каванні Бярозаўкі і Ліды, у тым ліку мікрараёнаў індывідуальнай жылой забудовы. Прадугледжваецца рэстаўрацыя Лідскай цвердзі. Да 2010 г. неабходна добраўпарадкаваць 15 аграгарадкоў.

У бліжэйшай перспектыве - будаўніцтва лёдавага палаца ў Лідзе.

Як бачыце, планы па будаўніцтве ў нас вялікія. Але для таго, каб справіцца з усімі пастаўленымі задачамі, кіраўнікам прадпрыемстваў неабходна больш надаваць увагі падрыхтоўцы спецыялістаў, стварэнню спрыяльных умоў працы, забеспячэнню годнай зарплаты.

Прыклад арганізацыі працы ў нас ёсць браць з каго: "Лідагазбуд", рамонтна-будаўнічае прадпрыемства № 17, прадпрыемства меліярацыйных сістэм. Але першым чынам - гэта ПМК 169, якая сёння будзе ўшаноўвацца як пераможца ў раённым спаборніцтве сярод будаўнічых арганізацый.

На працягу 2005 г. праведзена праца па ўдасканаленні маршрутнай сеткі пасажырскага транспарту. Адкрыты новыя гарадскія маршруты № 12, і 14 Т, прыгарадны маршрут "Ліда-Малэйкаўшчына", арганізаваны рух гарадскога транспарту ў Бярозаўцы, у выніку чаго павялічыўся пасажыразварот.

Грузавымі транспартнымі арганізацыямі перавезена грузаў летась на ўзроўні 2004 г. У сувязі з памяншэннем колькасці рэйсаў, выкананых на міжнародных перавозках, не забяспечана выкананне заданняў па грузазвароце "Лідатрансаўта", Лідскай грузавой аўтастанцыяй, унітарным прадпрыемствам "Саюзтранс".

Хоць "Лідаспецаўтатранс" здолела павялічыць грузазварот і аб'ём перавозак больш чым на 11% у параўнанні з 2004 г. Гэтае прадпрыемства другі год запар з'яўляецца пераможцам раённага спаборніцтва ў транспартнай галіне.

Раённым вузлом электрасувязі праведзена рэканструкцыя аўтаматычных тэлефонных станцый г. Ліда і в. Бердаўка.

У выніку праведзенай працы ёмістасць тэлефоннай сеткі ў цэлым па раёне павялічылася на 1 122 нумары, у тым ліку ў горадзе - на 950 нумароў, у сельскай мясцовасці - на 172 нумары. Шчыльнасць тэлефонных апаратаў на 100 жыхароў па раёне складае 34 тэлефоны пры нарматыве 27.

Па выніках працы за 2005 г. Лідскі раённы вузел паштовай сувязі забяспечыў выкананне асноўных параметраў прагнозу сацыяльна-эканамічнага развіцця.

Рост платных паслуг сувязі насельніцтву ў параўнанні з мінулым годам у супастаўных цэнах склаў 119.1% пры прагнозе 108%. Рэнтабельнасць ад прыбытку мае становучае значэнне і складае 6,4%.

Сярод аддзяленняў паштовай сувязі лепшых вынікаў працы дасягнула аддзяленне паштовай сувязі "Тарнова", прызнанае пераможцам унутрывытворчага спаборніцтва сярод структурных падраздзяленняў Лідскага раённага вузла паштовай сувязі.

Калектыў аддзялення паштовай сувязі пастаянна ўлічвае ўсё нарастальныя патрэбнасці кліентаў. Акрамя аказання традыцыйных паштовых паслуг у аддзяленні прымаюцца ўсе віды плацяжоў, рэалізуюцца тавары народнага спажывання.

У 2006 г. вузлом паштовай сувязі плануецца ажыццявіць тэхнічнае пераўзбраенне аддзяленняў, што дазволіць павысіць якасць паслуг, якія прадстаўляюцца.

Аб'ём рознічнага тавараабароту прадпрыемстваў гандлю і грамадскага харчавання Лідскага раёна ў 2005 годзе склаў 344,5 млрд. рублёў або 120,4 % да ўзроўню мінулага года. Азначылася тэндэнцыя павелічэння рэалізацыі нехарчовых тавараў. Іх доля ў агульным аб'ёме тавараабароту за мінулы год склала 41,4 % і павялічылася ў параўнанні з мінулага годам больш, чым на 2 %. Так, напрыклад, у 2005 годзе ў параўнанні з 2004 годам насельніцтву рэалізавана больш халадзільнікаў на 879 штук, тэлевізараў - на 240 штук, мэблі - на 307,0 млн. руб., што сведчыць аб росце дабрабыту нашага насельніцтва.

Рэалізацыя тавараў айчыннай вытворчасці дасягнула летась 85,4 %, а па харчовых таварах - 90,3 % .

Па выніках працы за 2005 год прадпрыемствамі гандлю і грамадскага харчавання атрымана чыстага прыбытку ў суме 607,0 млн. рублёў. Колькасць стратных прадпрыемстваў за 2005 год паніжана.

Па метадзе самаабслугоўвання ў раёне працуе 120 крам. Дзве крамы - "Дом гандлю" і "Універсам "Патсдам" скарыстоўваюць адмысловую кампутарную сістэму па руху тавараў. 63 пункты гандлю і сэрвісу абсталяваны тэрміналамі для разлікаў з пакупнікамі.

Запатрабаваныя такія формы гандлю, як выставы-продажы і перадсвяточныя кірмашы па рэалізацыі кандытарскіх і кулінарных вырабаў уласнай вытворчасці, сезонныя распродажы тавараў па паніжаных коштах.

У мінулым годзе значна палепшыўся знешні выгляд прадпрыемстваў, удасканальвалася і развівалася іх матэрыяльна-тэхнічная база праводзілася добраўпарадкаванне прылеглай тэрыторыі. На гэтыя мэты прадпрыемствамі гандлю, грамадскага харчавання і бытавога абслугоў-

вання накіравана 3,3 млрд. рублёў. Так, толькі тратуарнай пліткі на прылеглай да крам тэрыторыі выкладзена больш за 4,5 тыс. кв. метраў на агульную суму 232,0 млн. рублёў, што амаль у 4 разы больш, чым у папярэднім годзе, двацццю прадпрыемствамі гандлю абноўлены рэкламныя шыльды, двацццю шасцю прадпрыемствамі выканана светлавое афармленне.

Характэрнай асаблівасцю працы прадпрыемстваў бытавога абслугоўвання стала стабільнасць і павелічэнне аб'ёмаў паслуг. Праз усе каналы рэалізацыі іх аказана насельніцтву ў 2005 годзе на суму 10,7 млрд. рублёў, у 2005 годзе адчынена 3 майстэрні па пашыве і рамонту вопраткі, 6 салонаў пракату вясельных сукенак, 4 майстэрні па рамонце абутку, 2 фотасалоны і 1 цырульня.

Мяняе сваё аблічча гандаль і бытавое абслугоўванне і на сяле. Так, у аграгарадку "Мажэйкава" пасля правядзення капітальнага рамонту аднавіла працу крама "Прамысловыя тавары", пачаў працаваць новы комплексны прыёмны пункт на 8 працоўных месцаў, у т.л. на 5 працоўных месцаў швачак, 1 месца цырульніка, 1 месца майстра па рамонту абутку і 1 месца касіра-прыёмшчыка.

17 лютага ў заключным этапе рэспубліканскага конкурсу "Лепшы рэстаран, кавярня 2005 года" гонар Гарадзенскай вобласці ў конкурсе "Кулінарнага майстэрства і сэрвісу" абаранялі кухары горада Ліды. Майстар-кухар УКП "Камбінат школьнага харчавання" Слабыш Г.А. заняў 2-е месца ў праграме "Арт-клас", а кухару рэстарана "Стары замак" ЧУП ТД "Лідскае піва" прысвоена званне "Майстар-кухар" і ўручаны дыплом "За тонкасць і вытанчанасць у афармленні страў".

Дысцыпліна, працавітасць, розум, кемлівасць нашых людзей дазволілі прыўмножыць патэнцыял усіх галін народнай гаспадаркі, у выніку чаго ў бюджэт раёна паступіла 72 млрд. 939 млн. руб., што дазволіла выканаць значныя аб'ёмы работ па бягучых рамонтах аб'ектаў сацыяльнай сферы.

Амаль 74% бюджэту раёна расходуецца на сацыяльную сферу. Так, для развіцця фізкультуры і спорту ў 2005 г. выдаткавана больш 3-х млрд. руб. Усе школы раёна абсталяваны сучаснай камп'ютарнай тэхнікай, функцыянуюць 52 кабінеты інфарматыкі.

З моманту аб'яднання горада і раёна ў адну адміністрацыйную адзінку ў 2004 г. актывізуецца працэс рэарганізацыі сістэмы адукацыі раёна. Ствараюцца ўстановы новага тыпу: Бялевіцкая базавая школа рэарганізавана ў Гудскую базавую школу-сад, уведзена ў эксплуатацыю Пескаўская сярэдняя агульнаадукацыйная школа-сад, адчынены другі дашкольны Цэнтр развіцця дзіцяці. У рамках рэалізацыі Праграмы адраджэння і развіцці сяла Гарадзенскай вобласці на 2005-2010 гады капітальна адрамантаваны Мажэйкаўскія сярэдняя школа і дзіцячы сад.

Аб выніковасці працы педагогаў сведчаць паказчыкі паступлення выпускнікоў устаноў адукацыі ў вышэйшыя навучальныя ўстановы: 2004 г. - 42,6%, 2005г. - 43,7%. Стала расце працэнт паступлення ў вышэйшыя навучальныя ўстановы медалістаў: 2000 г.-82,4%, 2004 і 2005 гады-100%. Навучэнцы школ раёна неаднаразова станавіліся пераможцамі абласных і рэспубліканскіх прадметных алімпіяд. У 2006 годзе 59 навучэнцаў Лідскага раёна атрымалі дыпломы першай, другой і трэцяй ступеняў на абласных алімпіядах (2001 г.-50, 2005 г.-52), гэта лепшы вынік у вобласці.

Дзяржава занепакоенае станам здароўя нашых дзяцей, таму самая пільная ўвага надаецца арганізацыі гарачага харчавання ва ўстановах адукацыі. У раёне ахоп гарачым харчаваннем навучэнцаў школ складае 83,3%. Рашэннем Лідскага выканаўчага камітэта вызвалены ад платы за харчаванне 23 навучэнцы з шматдзетных сем'яў, 431 чалавек дзяцей з асаблівасцямі псіхафізічнага развіцця і навучэнцаў з малазабяспечаных сем'яў, якія наведваюць групу падоўжанага дня, 115 навучэнцаў спартовых класаў.

У мінулым годзе вялася праца па ўмацаванні матэрыяльна-тэхнічнай базы пазашкольных устаноў і пяці пакояў па месцы жыхарства. У снежні 2005 года было выдзелена два мільёны рублёў з фонду "Падлетак" на набыццё мэблі і папаўненне гульнятэк у пакоях мікрараёнаў. У дзве ўстановы пазашкольнай адукацыі набыты камп'ютары.

Важны аспект працы са студэнцкай моладдзю - гэта арганізацыя карыснай занятасці і дзейнасці ў вольны час. У гэтым плане нашымі каледжамі і прафесійна-тэхнічнымі ўстановамі робіцца нямала.

У 2005 г. у вучэльні № 235 адчынены музейны пакой, у № 136-ым - гістарычна-краязнаўчы музей.

Навучаннем і выхаваннем займаюцца прафесійныя калектывы інжынерна-тэхнічных работнікаў. Многія з іх - прызёры рэспубліканскіх і абласных аглядаў і конкурсаў тэхнічнай творчасці, з'яўляюцца вынаходнікамі і рацыяналізатарамі. Але галоўнае, што яны здольныя падрыхтаваць добрых спецыялістаў, чые паслугі буду запатрабаваны на рынку працы.

Па ўстановах сацыяльнай сферы заплана-

вана на бягучы год 80,6 млрд. руб. або 81,3% агульнага аб'ёму бюджэту. З іх на ўстановы адукацыі - каля 50 млрд. руб., што ў 1,2 разы больш чым у папярэдні год. Павялічаныя асігнаванні на ахову здароўя, жыллёва-камунальную гаспадарку.

Гарадское ўнітарнае прадпрыемства ЖКГ паспяхова справілася з пастаўленымі задачамі. Жыхары раёна практычна не адчулі сур'ёзных нязручнасцяў ні ў перыяд моцных маразоў, ні падчас іншых рэзкіх зменаў надвор'я. Госці нашага горада аднадушна адзначаюць чысціню і парадак.

У сферы медыцыны ў 2005 г. адбыўся шэраг зменаў: пашырана жаночая кансультацыя, адчынены дзённы стацыянар, прыгарадная медычная амбулаторыя, рэарганізаваны Мажэйкаўскі фельчарска-акушэрскі пункт у медычную амбулаторыю. Набыта абсталявання на суму 1 млрд. 634 млн. руб.

Ужо ў бягучым годзе адчынена Бальніца сястрынскага догляду для самотных і пажылых людзей, будзе завершана будаўніцтва акушэрскага корпуса, рэканструкцыя стадыёна і рамонт басейна.

Бюджэт раёна на 2006 г. захоўвае сацыяльную скіраванасць. Гэта палітыка дзяржавы і, перш за ўсё, Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі.

Адзін з прыярытэтных кірункаў захавання і ўмацавання здароўя нацыі - фармаванне здаровага ладу жыцця. Таму не выпадкова пад патранажам Прэзідэнта Рэспублікі Беларусь у краіне разгорнута шырокамаштабнае будаўніцтва спартовых комплексаў. Гэта - мэтанакіраваныя інвестыцыі ў здароўе нацыі.

Павялічылася колькасць людзей, якія займаюцца фізічнай культурай і спортам. Развіваюцца гульнявыя віды спорту, акадэмічнае веславанне, цяжкая атлетыка і іншыя.

Спорт высокіх дасягненняў - гэта сусветны прэстыж краіны. Свой уклад у гэтую справу ўнеслі і лідзяне:

Павел Шурмей, Валеры Радзевіч сталі фіналістамі Алімпійскіх гульняў у Афінах;

2005 год - Шурмей Павел стаў чэмпіёнам свету па акадэмічным веславанні;

Новікаў Руслан - чэмпіён Еўропы па цяжкай атлетыцы;

Жвірко Руслан - бронзавы прызёр першынства Еўропы па цяжкай атлетыцы сярод юнакоў.

Астравух Юры, Лісіца Ігар, Карповіч Ігар у складзе зборнай каманды Рэспублікі Беларусь прымалі ўдзел у фінальнай частцы першынства Еўропы па футболе сярод юнакоў у Італіі.

Да 29-х Алімпійскіх гульняў 2008 года ў Пекіне вядуць падрыхтоўку 5 спарцменаў Лідчыны: Павел Шурмей і Валеры Радзевіч (акадэмічнае веславанне), Руслан Новікаў і Аксана Залатарова (цяжкая атлетыка), Наталля Карэйва (лёгкая атлетыка) і адзін спарцмен рыхтуецца да Паралімпійскіх гульняў: Барэйша Віталь (паўэрліфтынг).

Мінулы 2005 год быў асабліва плённым для аддзела культуры, які ажыццяўляў сваю дзейнасць абапіраючыся на праграму развіцця культуры ў Лідскім раёне на 1999-2005 гады.

Лідская зямля шчодрая на таленты і цікавыя падзеі. Мы ганарымся сваёй гісторыяй і культурнай спадчынай, таленавітымі і знакамітымі імёнамі землякоў. Тут нарадзілася беларуская пісьменніца Данута Бічэль-Загнетава, заслужаная артыстка БССР Ганна Радзько, прайшлі юнацкія гады сусветна вядомага навукоўца Ігната Дамейкі, жыў і працаваў Валянцін Таўлай.

Гістарычная спадчына Лідчыны адлюстравана ў экспазіцыях гістарычна-мастацкага музея.

Адным з прыярытэтных кірункаў з'яўляецца адраджэнне, захаванне і развіццё традыцыйнай культуры Лідчыны. Дзейнасць устаноў культуры накіравана на даследаванне мастацкіх традыцый, распаўсюджанне рэгіянальных народных рамёстваў у розных формах іх праявы, што вельмі важна для фармавання і самасцвярджэння беларускай нацыі. Майстры Лідчыны вядомыя далёка за межамі раёна. Вырабы народнага майстра Рышкевіча Міхася Антонавіча ведаюць у Расіі, Украіне, Літве, яны ўпрыгожваюць археалагічны музей у Менску, музей гісторыі і рэлігіі ў г. Гародні.

Канцэртнае абслугоўванне - важны паказчык узроўню мастацкай самадзейнасці. Паказчыкам яе ўзроўню з'яўляецца агляд канцэртных праграм "Лідскі падворак" - гэта справаздачныя канцэрты перад насельніцтвам па выніках года.

У раёне склалася сістэма правядзення раённых мерапрыемстваў, якія садзейнічаюць падтрымцы адораных выканаўцаў, пошуку новых талентаў, стварэнню спрыяльных умоў для развіцця мастацкай самадзейнасці. Гэта:

- шоў-праграма "Надвор'е ў хаце",
- фэст народнай творчасці "Кірмаш талентаў",
- экалагічная праграма "Песні над Нёманам",
- моладзевая шоў-праграма "Вернісаж прыгажосці",
- фэст дзіцячай народнай творчасці "Зорны феерверк",
- агляд-конкурс калектываў мастацкай самадзейнасці "Лідскі падворак",

- аўтапрабег па месцах баявой славы.

Установы культуры вядуць працу па:

- прапагандзе здаровага ладу жыцця;
- па працы з падлеткамі і непаўнагадовымі;
- па арганізацыі моладзевых праграм;
- па сямейным вольным часе.

Калектывы і выканаўцы Лідскага раёна з'яўляюцца сталымі ўдзельнікамі Міжнародных, рэспубліканскіх і абласных фэстаў і конкурсаў. На працягу 2005 года яны былі ўганараваныя 50 Дыпломамі і Граматамі.

Вядзецца праца па ўдасканаленні сеткі ўстаноў культуры. Так Бердаўскі цэнтральны дом культуры быў рэарганізаваны ў Бердаўскі культурны цэнтр вольнага часу, што несумнеўна адаб'ецца на падвышэнні ўзроўню культурнага абслугоўвання насельніцтва. Бярозаўская дзіцячая музычная школа ператворана ў школу мастацтваў.

У той жа час неабходна развіваць сетку філіялаў і класаў дзіцячых музычных школ у аграгарадках, канкрэтызаваць далейшую працу па захаванні традыцыйнай беларускай культуры.

Сёння мы з упэўненасцю гаворым аб стварэнні надзейнага падмурка для далейшай стваральнай працы.

Асноўная задача сацыяльна-эканамічнага развіцця раёна на перспектыву - гэта павы-шэнне жыццёвага ўзроўню насельніцтва за кошт стабільнай і эфектыўнай працы рэальнага сектара эканомікі.

Будзе працягнута тэхнічнае пераўзбраенне дзейных вытворчасцяў. У прамысловасці прадугледжваецца інвеставаць на гэтыя мэты 59 млрд. руб., у сельскую гаспадарку - 25 млрд. руб., у будаўнічы комплекс - 64 млрд. руб. (гэта будаўніцтва жылля, аб'ектаў сацкультбыту), у гандаль - 3 млрд. руб., у транспарт - 2,8 млрд. руб., 13,2 млрд. руб. будзе ўкладзеныя ў камунальную гаспадарку, медыцыну, адукацыя і энергетыку.

Будзе працягнута будаўніцтва жылля, мадэрнізацыя сродкаў сувязі, рэканструкцыя дзейных аб'ектаў, пашырэнне мясцовай тэлефоннай сеткі і ўкараненне сучасных відаў паслуг.

Прадпрыемствы і арганізацыі раёна працягнуць працу па энерга- і рэсурсазберажэнні.

Прадугледжваецца стварэнне новых працоўных месцаў у розных галінах народнай гаспадаркі. Сёлета іх плануецца стварыць 1820.

Паважаныя таварышы!

Выказваю сардэчную падзяку ўсім, хто ўнёс уклад у агульную справу развіцця і росквіту Лідчыны. Работнікам прамысловых прадпрыемстваў, сельскім працаўнікам, прадпрымальнікам, будаўнікам, сувязістам, транспартнікам. Працаўнікам культуры, педагогам, лекарам, супрацоўнікам праваахоўных органаў.

Дзяржавай нямала зроблена ў ажыццяўленні галоўнай мэты - каб кожны грамадзянін Беларусі жыў лепш. Зараз пастаўленая задача: дзяржава - для народа. "Таму 2006 г. будзе годам карэннага павароту да чалавека. Пра гэта будуць гаварыць удзельнікі трэцяга Ўсебеларускага народнага сходу. Яны прымуць праграму сацыяльна-эканамічнага развіцця краіны да 2010 года.

Гэты асноватворны дакумент будзе накіраваны на дынамічнае развіццё нашай эканомікі і павышэнне якасці жыцця народа. Дэвіз новай пяцігодкі - "Чалавек - інавацыі - дабрабыт". Ад Лідскага раёна на гэты форум абрана 45 дэлегатаў.

2006 г. адкрывае чарговую пяцігодку, таму вельмі важна, наколькі энергічным будзе старт. Бо добры пачатак - палова поспеху. Упэўнены, нам пад сілу выканаць вызначанае. Для гэтага ў нас ёсць усё. Працавітыя і таленавітыя людзі, досвед, дзеяздольная ўлада, выразная праграма на перспектыву.

Гісторыя навучыла беларусаў шанаваць мір і згоду. Такія паняцці, як здароўе, добрая праца, спакой і цеплыня ў хаце, несупаставімыя з любымі палітычнымі ўзрушэннямі.

2006 год - год прэзідэнцкіх выбараў.

Сёння мы назіраем, як вядуць сваю агітацыю альтэрнатыўныя кандыдаты на пост прэзідэнта нашай краіны. Агітуюць не гэтулькі за сябе, колькі супраць дзейнага Прэзідэнта. Яны ідуць да ўлады не дзеля народа, а дзеля задавальнення сваіх амбіцый. У асноўным - гэта палітыкі, якія не адбыліся, якія адрабляюць грошы, накіраваныя на дэстабілізацыю цяперашняй сітуацыі ў Беларусі.

Давайце будзем пільнымі. Не дапусцім авантурнікаў і дэмагогаў да ўлады.

Дзейнасць цяперашняга Прэзідэнта Беларусі Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнкі нам вядомая, яго ўвага і клопат да патрэб і праблемаў людзей, яго прынцыповасць, сумленнасць, прыстойнасць, настойлівасць у рэалізацыі праграм павышэння дабрабыту.

Неаднаразова Прэзідэнт бываў у Лідскім раёне. У рамках пратаколу даручэнняў зроблена шмат і вызначана зрабіць яшчэ больш па стабілізацыі працы эканомікі раёна ў цэлым і асобных прадпрыемстваў.

Таму я вас заклікаю праявіць сваю грамадзянскую пазіцыю, прыняўшы актыўны ўдзел як у передвыбарнай кампаніі, так і ў выбарах, аддаць свой голас за кандыдата ў Прэзідэнты Рэспублікі Беларусь Аляксандра Рыгоравіча Лукашэнку.

**Валеры Сліўкін**

# ЛІДСКАЕ ПІВА

## Піўзавод Пупко

*(Працяг. Пачатак у № 4 (32) за 2005 г.)*

### 4. 1900-1907. Нашчадкі Носеля Пупко працягваюць бацькоўскую справу.

Заснавальнік Лідскага піўнога завода, ураджэнец Ліды, купец 2-ой гільдыі Носель Зелікавіч Пупко памёр улетку 1900 г. у веку каля 75 гадоў. Пахаваны ён быў на лідскіх яўрэйскіх могілках. Маёмасць Н.З. Пупко, у тым ліку піўны завод, была падзелена паміж 4-ма сынамі Іцкам, Гершам, Абрамам і Мейлахам. На сямейнай радзе было вырашана, што заводам будуць кіраваць малодшыя браты Абрам і Мейлах. Гэта былі дарослыя мужчыны, Мейлаху, напрыклад, было ўжо 40 гадоў.

Першая праблема, з якой сутыкнуліся спадчыннікі, - няздзейсненыя абавязальніцтвы перад Будаўнічым аддзяленнем Віленскай губернскай управы. 20 снежня 1901 года памочнік лідскага павятовага спраўніка Зубрыцкі па просьбе Будаўнічага аддзялення ў прысутнасці панятых Баляслава Леанардавіча Рэксця і Іосіфа Карпавіча Залескага зрабіў агляд піўзавода для высвятлення: ці выпраўленыя недаробкі, выяўленыя ў 1899 г. Пры аглядзе аказалася, што драўляныя лесвіцы незгаральнымі не заменены; катлы для варэння агароджаны жалезнымі кратамі толькі з аднаго боку; замест драўлянай прыбудовы для бакаў пры аддзяленні піваварства ўсталёваны тры слупы з цэглы і насланы рэйкі, на якіх і змяшчаецца бак. Быў складзены пратакол. У той жа дзень, па гарачых слядах было напісана тлумачэнне: *"Вследствие требования Строительного Отделения ... об устройстве на пивоваренном заводе, принадлежавшем умершему Носелю Пупко, лестницы из несгораемого материала, имею честь объяснить, что таковое требование не исполнено, за смертью владельца завода, а наследникам его требование Строительного Отделения не было известно, ... существующая лестница будет заменена новой из несгораемого материала по наступлении весны. Лично за себя и по доверенности братьев своих Мейлах Носелевич Пупко." (ЦДГА Літвы. Ф. 382, воп. 2, сп. 758, арк. 51.)*



**Мейлах Пупко**

Праз паўгода Будаўнічае аддзяленне прапанавала Лідскай павятовай паліцэйскай управе апавясціць Аддзяленне, ці ўсталяваны на піваварным заводзе Пупко незгаральныя лесвіцы. 8 ліпеня 1902 г. лідскі паліцэйскі наглядчык у прысутнасці панятых Абрама Мастоўскага і Генаха Баярскага правёў агляд лесвіц, аказалася, што ў варачным аддзяленні ўсталявана адна незгаральная лесвіца, астатнія ж лесвіцы разабраныя, паколькі ў іх няма патрэбы. У той жа дзень Абрам Пупко даў распіску паліцэйскаму наглядчыку ў тым, што загад Будаўнічага аддзялення яму абвешчаны, і заявіў, што на заводзе адна незгаральная лесвіца зроблена, і ён аб гэтым абавязваецца заявіць Будаўнічаму аддзяленню пісьмова.

24 студзеня 1903 года малодшы губернскі інжынер Пінаеў, сумесна з паліцэйскім наглядчыкам г. Ліды правялі агляд піўзавода. У акце запісана, што *"з усіх паказаных на плане незгаральных лесвіц ні адной так і не зроблена, а ўсе лесвіцы ўстаноўлены драўляныя. У ліку новых лесвіц устаноўлена адна жалезная. Вядзе яна з падлогі другога паверху піваварнага аддзялення да*

*катла для варэння сусла з хмелем, які ўсталяваны на вышыні гарышча. На другім паверсе, у тым ж варачным аддзяленні, пры катле для кіпячэння густой часткі затору зроблена патрэбная агароджа жалезнымі парэнчамі. Былая драўляная прыбудова для бакаў пры аддзяленні піваварства замененая мураванай, пры чым у частцы гэтай прыбудовы зроблена памяшканне для вадзяной помпы. Адзін з бакаў стаіць над гэтай часткай, іншы ж побач на прагонах, якія падпіраюцца цаглянымі слупамі. Што тычыцца драўляных лесвіц, то пры дадзеных умовах, замена іх незгаральнымі не дасць істотнай перавагі, ... ; што ж тычыцца неабходнасці ў іх, то па роду вытворчасці піваварныя заводы могуць быць пастаўленыя ў адны і тыя ж умовы са спіртавымі, для якіх патрабаванне незгаральных лесвіц неабавязкова, таму на азначаным заводзе можна абмежавацца існымі драўлянымі лесвіцамі. Уладкаваная незгаральная лесвіца, якая вядзе да суславарнага катла, ніякага значэння ў пажарных адносінах не мае, між тым як драўляная лесвіца, што стаіць побач і вядзе з другога паверху на першы, мае патрэбу ў большай бяспецы, таму тут яна была б больш карыснай і дарэчнай ,у выніку чаго неабходна замяніць незгаральную лесвіцу да суславарачнага катла драўлянай, перанесці наяўную жалезную ў ніжні паверх для злучэння 1 і 2 паверхаў варачнага аддзялення". (ЦДГА Літвы. Ф. 382, воп. 2, сп. 758, арк. 56.)* Вось як аказваецца, можа быць, і лесвіцы незгаральныя неабавязковыя, не даюць пераваг і ніякага значэння не маюць.

2 сакавіка 1903 г. лідскі павятовы спраўнік рапартаваў у Будаўнічае аддзяленне, што загад Аддзялення абвешчаны Мейлаху Пупко, і ў яго ўзята падпіска. Заводчык абавязаўся ў чарговы раз замяніць драўляныя лесвіцы незгаральнымі да 1 ліпеня 1903 г. *(ЦДГА Літвы. Ф. 382, воп. 2, сп. 758, арк. 62.)*Трэба лічыць, замяніў, тэма гэтая больш не ўзнікала. Тут і рэвалюцыя 1905 года падаспела. 17 сакавіка заштрайкавалі працоўныя абодвух лідскіх піўзаводаў, зрэшты штрайк быў нядоўгім, гаспадары пайшлі насустрач патрабаванням па скарачэнні працоўнага дня пры захаванні заработнай платы, і на гэтым штрайк завяршыўся.

У траўні 1907 г. завод **"Нашчадкаў Пупко"**, складаўся з 10 асобных будынкаў і належаў братам Мейлаху і Абраму Пупко.

### 5. 1907. Справа аб спробе падрыву піўзавода і спадарожным шантажы.

23 траўня 1907 г. каля 6 гадзін раніцы рабочы піўзавода Восіп Рагуцкі у мыйным аддзяленні знайшоў бляшаную цыліндрычную скрынку, вышынёй 9 см, абкручаную дротам. Мяркуючы, што гэта некім згубленая рэч, Рагуцкі схаваў банку і на другі дзень паспрабаваў банку адчыніць. Пасыпаліся жоўты парашок, патроны і аскепкі чыгуну. Рагуцкі паведаміў аб знаходцы старэйшаму рабочаму Яну Новіку, які аднёс банку ўладальніку завода Мейлаху Пупко, а затым паліцэйскаму наглядчыку г. Ліды.

У паліцэйскай управе было ўстаноўлена, што бляшаная скрынка з абгарэлым кнотам уяўляла сабой разрыўны снарад. Сілаю выбуху гэтага снарада, па заключэнні эксперта штабс-капітана Старыкава, можна было прычыніць смерць чалавеку.

У ноч на 23 траўня 1907 г. завод ахоўваў вартаўнік Міхась Слука. Аднак пракрасціся ў двор завода пабочнай асобе можна было неўзаметку, бо частка плоту, навакольнага двара, была знятая.

Абрам Пупко заявіў паліцыі падазрэнне на гаспадара Лідскай коннай пошты мешчаніна Янкеля Пупко і яго сына Абеля, якія патрабавалі ад яго і яго брата Мейлаха Пупко 500 рублёў, пагражаючы ў адваротным выпадку знішчэннем завода. 6 траўня 1907 г. Мейлах Пупко атрымаў па пошце ліст з мастычным штэмпелем "Федэрацыя Віленскай групы анархістаў Чорны Крумкач". У лісце паказвалася, што "федэрацыя", выслухаўшы скаргу працоўнага Сямёна П. і пераканаўшыся ў справядлівасці яго, вырашыла спагнаць з Мейлаха Пупко 500 рублёў. Гэтую суму Мейлах павінен быў перадаць бацьку працоўнага Я. П. Калі Я. П. адмовіцца прыняць грошы, то М. Пупко павінен паказаць ліст, і тады "справа не падлягае адмове". У выпадку невыканання паказанага патрабавання маёмасць М. Пупко будзе падвергнута "спусташэнню і знішчэнню". 23 траўня Зелік Абрамовіч Пупко каля поўдня поруч адчыненага акна ў кватэры свайго бацькі знайшоў ліст. У лісце, які меў такі ж мастычны штэмпель, як і на першым лісце, выказвалася шкадаванне, што бомба не падарвалася, і загадвалася перадаць Я. П. ужо 600 рублёў, у тым ліку 100 руб. штрафу *"за невыкананне першага патрабавання і наданне справе галоснасці".*

Па тлумачэнні Мейлаха і Абрама Пупко ў абодвух лістах пад умоўнымі знакамі Я. П. і Сямён П. вынікала разумець мешчаніна Янкеля Пупко і яго сына Шымеля, абвінавачванага ў замаху на забойства Яна Боландзя. Шымель Пупко, які працаваў на піўным заводзе ў 1907 г., быў узяты пад варту і затым вызвалены ў лютым за паручыцельства ў суме 300 руб. Калі Шымель Пупко з'явіўся на завод, каб яго прынялі на працу, М. Пупко яму адмовіў. Неўзабаве да Мейлаха Пупко з'явіліся тры незнаёмыя яўрэі і запатрабавалі, каб ён прыняў ізноў на службу Шымеля Пупко. М. Пупко выканаў гэтае патрабаванне. Шымель гаварыў рабочым, быццам з-

за ўладальнікаў завода ён быў узяты пад варту. 6 сакавіка Ш. Пупко знік з г. Ліды, пасля чаго брат яго Абель, сустрэўшы ў красавіку на вуліцы Абрама Пупко, пагражаў апошняму адпомсціць быццам б за данос пракурору суда на Шымеля.

Пасля атрымання ліста ад 6 траўня Мейлах Пупко запрасіў Янкеля Пупко і прачытаў яму ліст. Янкель сказаў, што яму нічога не было вядома аб змесце ліста, і што ён адмаўляецца прыняць якія-небудзь грошы ад Мейлаха. Праз два дні Янкель ізноў прыйшоў да Мейлаху і паказаў яму толькі што атрыманы па пошце ліст, у якім "група анархістаў" патрабавала, каб Янкель прыняў ад Мейлаха 500 руб. і перадаў гэтую суму асобе, якая з'явіцца па грошы. Янкель на пытанне Мейлаха, як ім паступіць, адказаў, што ён, Янкель Пупко, ні пад якім выглядам не прыме ад Мейлаха грошай.

Прыператрусе, праведзеным у кватэры Янкеля Пупко, ліста атрыманага ім 8 траўня выяўлена не было. Почырк, якім былі напісаныя лісты на імя Мейлаха і Абрама Пупко, не мае падабенства з почыркам ні аднаго з чальцоў сям'і Янкеля Пупко і іх знаёмых Юдас Прускай і Лейбы Сталавіцкага.

Прыцягнуты да следства ў якасці абвінавачванага мешчанін Янкель Пупко не прызнаў сябе вінаватым і растлумачыў, што яго сын Шымель уцёк з Ліды за мяжу, а з сынам Абелем ён знаходзіўся ў сварцы, і Абель з сакавіка 1907 г. жыў на асобнай кватэры. Яму невядома, хто паклаў бомбу. Калі ён атрымаў ліст з патрабаваннем атрымаць грошы ад Мейлаха Пупко, то заявіў, што ніякіх грошай не прыме. Абвінавачваны дадаў, што, калі ён ездзіў у Вільню клапаціцца аб вызваленні з-пад варты Шымеля, то дазнаўся у акруговым судзе, што Шымель быў арыштаваны з прычыны даносу падпісанага пяццю асобамі, у тым ліку жонкаю Мейлаха Пупко Рахіллю. Разглядам справы па абвінавачанні мешчаніна Шымеля Пупко і інш. у замаху на забойства Яна Боландзя ўстаноўлена, што ніякай заявы, падпісанай Рахіллю Пупко, у справе Шымеля не маецца.

Прыцягнутыя да следства ў якасці абвінавачваных мяшчане Абель і Шымель Пупко схаваліся, аб вышуку іх праз публікацыю Віленскім акруговым судом зроблена належнае распараджэнне ў дачыненні да першага ў ліпені; а ў дачыненні да другога ў снежні 1907 г.

11 студзеня 1908 года пракурор прыняў рашэнне: вытворчасць у дачыненні да мешчаніна Янкеля Лейбава Пупко далейшай вытворчасцю спыніць, прычым адмяніць і прынятую супраць яго меру ўтрымання ад спосабаў ухіліцца ад следства і суда - поручыцельства ў суме 2500 рублёў. Вытворчасць у дачыненні да мяшчан Абеля Лейбава і Шымеля Лейбава Пупко прыпыніць надалей да іх затрымання.

Падставай да прыцягнення Янкеля Пупко ў якасці абвінавачванага паслужыла заява Абрама Пупко аб тым, быццам Янкель Пупко ўдзельнічаў у складанні і адпраўленні Мейлаху і Абраму Пупко лістоў з патрабаваннем перадачы Янкелю Пупко 500, затым 600 руб. Гэтая заява аспрэчана на следстве тлумачэннямі, як Мейлаха так і Абрама Пупко аб акалічнасцях, якія суправаджалі атрыманне гэтых лістоў, і катэгарычнай адмовай абвінавачванага Янкеля Пупко атрымаць ад Мейлаха Пупко якія-небудзь грошы. Пры гэтых умовах, выяўленае ў лістах на імя Мейлаха і Абрама Пупко патрабаванне перадаць грошы менавіта Янкелю Пупко не выключае невінаватасці апошняга. Такім чынам удзел Янкеля Пупко ва ўчыненні злачынства, якое прыпісваецца яму, не з'яўляецца даказаным.

Следствам не ўстаноўлена, хто менавіта пакінуў у мыйным аддзяленні завода разрыўны снарад. Таксама не ўстаноўлены прозвішчы яўрэяў, якія прыходзілі да Мейлаха Пупко з патрабаваннем аб прыняцці Шымеля Пупко на працу. *(ЦДГА Літвы. Ф. 446, воп. 1, сп. 1000.)*

Тлумачэнні: Янкель Лейбавіч Пупко ўтрымоўваў конную пошту, яму было 58 гадоў, ён меў чатырох сыноў: Файвеля - 33 гады, Абеля - 22, Шымеля - 21, Ёселя - 18 і пецярых дачок ва ўзросце ад 13 да 27 гадоў. *(НГА ў Гародні. Ф. 1574, воп. 2, сп. 3, стар. 351.)* Гэта быў час, калі маладыя яўрэі, захопленыя рэвалюцыйнымі ідэямі, адмаўляліся ад запаведзяў Майсея і сямейных традыцый.

### 6. 1910 год. Мейлах Пупко перабудоўвае завод і арганізуе з Папірмейстарам фірму "Баварыя".

У 1907 г. паміж лідскімі піўнымі заводамі была пракладзеная тэлефонная лінія - першая ў горадзе.

У 1908 г. 48 - гадовы Мейлах Носелевіч Пупко становіцца поўным гаспадаром прадпрыемства, ён выплаціў свайму брату Абраму яго долю, у гэтым яму сваімі зберажэннямі дапамагла маці, яна была ўпэўненая, што Мейлах лепш за іншых яе сыноў справіцца з кіраўніцтвам бацькоўскім прадпрыемствам. У гэтым жа годзе ён быў залічаны ў купцы 1-й гільдыі. Ён жанаты - жонка Рахіль Мардухоўна 1866 г. н. У іх чацвёра дзяцей: Фрыда 1901 г. н, Ганна і Марк 1902 г. н., Сямён 1909 г. н. *(НГА ў Гародні. Ф. 1574, воп. 2, сп. 4, стар. 305.)*

Вытворчасць паступова пашыраецца, быў набыты невялікі ўчастак зямлі ў суседа Малеўскага і забудаваны. 27 жніўня 1910 г. М. Н. Пупко звярнуўся ў Будаўнічае аддзяленне Віленскай губернскай управы з прашэннем аб

дазволе на пабудову мураванага будынка для варэння піва і правядзення некаторых вонкавых і ўнутраных пераробак.



Губернскі інжынер 2 верасня адправіў запыт у Лідскую гарадскую грамадскую ўправу з просьбай апавясціць, ці не сустракаецца з боку Управы перашкод для дазволу ўладальніку Пупко пабудовы новага будынка і пераробкі існых будынкаў піўзавода.


М. В. Д.
Строительное Отдѣленіе Виленскаго Губернскаго Правленія.
№ 7059
Сентября 2 дня 1910 г.
г. Вильна.

7 верасня гарадскі староста Лявон-Пётр Вісьмант ад імя Гарадской управы, а 15 верасня лідскі павятовы спраўнік фон Гроца дэ Бука апавясцілі Будаўнічае аддзяленне, *"што для дазволу ўладальніку Пупко пабудовы новага будынка і перабудовы існых будынкаў яго піва-варнага завода перашкод не сустракаецца". (ЦДГА Літвы. Ф. 382, воп. 2, сп. 2292, арк. 3 і 4.)*


3

Съ возвращеніемъ настоящей переписки и чертежа, Лидское Городское Общественное Управленіе честь имѣетъ увѣдомить Строительное Отдѣленіе Виленскаго Губернскаго Правленія, что къ разрѣшенію Пупко постройки новаго зданія и перестройки существующихъ зданій его пивовареннаго завода, со стороны Городского Управленія препятствій не встрѣчается.

Сентября 7 дня 1910 года.

Городской Староста Висьмонтъ

Исполнено 9 Сентября 1910 г. за № 1282 Лидскому у. Исправнику

30 верасня праект быў разгледжаны ў Будаўнічым аддзяленні Віленскай губернскай управы і ўхвалены губернатарам, губернскім інжынерам і губернскім архітэктарам. 12 кастрычніка Будаўнічае аддзяленне даручыла Лідскаму павятоваму спраўніку апавясціць купца Мейлаха Носелевіча Пупко, што 30 верасня прата-


М. В. Д.

колам № 250 *“праект ухвалены і дазволена пабудаваць два новыя мураваныя будынкі для варэння піва і кацельнага памяшкання, надбудаваць трэці паверх над існым мураваным будынкам і правесці некаторыя вонкавыя і ўнутраныя перарабкі ў астатніх будынках піваварнага завода, з тым, каб пабудовы гэтыя будаваліся ва ўсім паводле прадстаўленаму і ўхваленаму праекту і пад наглядам тэхніка, які мае на тое права па закону, і каб па завяршэнні ўсіх работ на адкрыццё дзейнасці завода быў “исходатайствован” адмысловы дазвол ... ” (ЦДГА Літвы. Ф. 382, воп. 2, сп. 2292, арк. 6-8.)*


Министерство
торговли и промышленности
Отдѣлъ промышленности.
Старшій
фабричный инспекторъ
Виленской губерніи.
22 Февраля 1911
№ 128
г. Вильна.

За пяць месяцаў (кастрычнік - люты) усе работы былі завершаныя, і 22 лютага 1911 года старэйшы фабрычны інспектар Віленскай губерні па даручэнні губернатара просіць Будаўнічае аддзяленне камандзіраваць прадстаўніка для агляду піваварнага завода М. Пупко. 5 сакавіка агляд быў праведзены.

З моманту падачы прашэння да дазволу будаўніцтва прайшло 33 дні, да зацвярджэння рэалізаванага праекту - 6 месяцаў. Зусім іншае стаўленне. Не дзіўна, на гэты час піва Лідскага піваварнага завода было вядома па ўсім Заходнім Краі.

Меркавана ў 1909 г. Мейлах Пупко купіў у суседа Малеўскага паласу зямлі плошчай каля 25 сотак, гэта дазволіла яму на набытай тэрыторыі пабудаваць новыя будынкі, склепы, паддашкавыя памяшканні, павялічыць плошчы свіранаў, саладоўні, брадзільнага аддзялення і леднікоў (да 390 м2), стварыць аддзяленні для бочак запасу піва і для паравога катла, перабудаваць схему грузаплыняў. Прыём ячменю і пагрузка гатовага піва былі вынесены ў заходнюю частку ўчастка бліжэй да вуліцы Віленскай.

Завадскі комплекс склаўся з свіранаў для ячменю, млына і склада соладу, саладоўні, аддзялення для мачэння ячменю, сушні соладу, аддзялення для півадарства, аддзялення для астуджэння гарачага сусла, аддзялення для брадзільных чанаў, леднікоў, аддзялення для




***Лідскі піўзавод пасля рэканструкцыі 1910 г.***

бочак запасу піва, аддзялення для паравога катла, аддзялення асвятлення піва, канторы і памяшкання майстра і рабочых, выцягнутых у дзве паралельныя лініі будынкаў рознай плошчы і паверхавасці.

Падпалі пад рэканструкцыю і жылыя дамы. Галоўны цагляны дом, які выходзіў фасадам на вул. Віленскую, зведаў істотныя змены. Да тылавой часткі дома была прыбудована веранда, другое выйсце на вуліцу закладзена, замест яго ўбудавана шостае акно. Тарцавыя вокны, акрамя аднаго, закладзены. У сярэдзіне дома аформлены прахадны калідор, перасунуты ўнутраныя сценкі, прыбраная вялікая печ, у былой кухні прарэзана акно. Гэты пабелены, атынкаваны дом праглядаецца на паштоўцы, выпушчанай у годы Першай Сусветнай вайны.



***Жылы дом па вул. Віленскай пасля рэканструкцыі 1910 г.***

Драўляны пяціпакаёвы дом з адрынай стаў 7-пакаёвым і 10-аконным. Быў пабудаваны муравана-драўляны 12 -пакаёвы, 20 аконны дом плошчай 250 м2 і маленькая драўляная двухпакаёвая хата ды вартоўня, а таксама драўляная адрына і драўляная стайня на 12 стойлаў.

1 снежня 1910 г. уладальнікі Лідскіх піўных заводаў аб'ядналі свае высілкі і адчынілі кантору Лідскіх піваварных заводаў пад назвай "Баварыя". На заводзе М. Пупко ў той год працавалі 46 працоўных.

Кааперацыя і пашырэнне вытворчых магутнасцяў дазволіла павялічыць гадавое абарачэнне ў 1912 годзе да 173 тысяч рублёў. Аб'ёмы выпуску піва дасягалі 2,0 -2.5 млн. літраў.

У 1913 годзе на заводзе здарыўся пажар, прадпрыемству была нанесена некаторая матэрыяльная шкода, не пацягнуўшая, зрэшты, значных страт. Аб'ём продажаў склаў 170 тысяч рублёў. Быў набыты газавы рухавік магутнасцю 6 конскіх сіл. У Лідзе ў гэтыя гады піва ўвайшло ў моду - у горадзе дзейнічала 41 піўная крама, яшчэ дзве піўныя крамы былі на выездзе з горада ў Вісьмантах і на вуліцы Крупаўскай. Адзін з гарадскіх шынкоў на вуліцы Віленскай належаў Мейлаху Пупко.

У 1914 годзе піўны завод меў паравую машыну магутнасцю ў 30 конскіх сілаў. Вытворчыя магутнасці размяшчаліся ў пяці будынках. Гэта быў завершаны комплекс для выпуску піва. Ёмістасць суславарачнага катла складала 1830 адзінак. Комін завода быў самым высокім будынкам у горадзе. За 1914 год было выпушчана прадукцыі на 170 тысяч рублёў, нягледзячы на тое, што з 31 ліпеня Расійская імперыя знаходзілася ў стане вайны з Нямеччынай, ішла Першая Сусветная вайна. На заводзе працавалі 30 чалавек. Кантроль вытворчасці ажыццяўлялі чатыры прыказчыкі: прускі падданы Краўзе Аўгуст Фердынандавіч, Беркавіч Моўша Ніселіёвіч, Калмановіч Гірш Мардухавіч і Кац Шолам-Янкель Абрамавіч, сумарнае іх жалаванне складала 11,8 тыс рублёў. *(НГА у Гародні. Ф. 1571, воп. 2, спр. 9).*

У Віленскай губерні ў гэтыя гады дзейнічалі 15 піваварных заводаў: тры ў Вільні, два ў Лідзе і па адным у Лынтупах, Чырвоным Двары, Гальшанах, Даслікове, Шырвінтах, Друі, Стаклішках, Свіранах, Юхнішках і Паставах. *(ЦДГА Літвы. Ф. 521, воп. 1, сп. 96, арк. 1.)*

### 7. 1915-1920 гады. Кайзераўскім салдатам і бальшавікам падабалася лідскае піва.

У верасні 1915 г. у Ліду ўвайшлі кайзераўскія войскі. Мова ідыш, на якой гаварылі лідскія яўрэі, блізкая і роднасная нямецкай мове. Немцы - прыхільнікі і аматары піва, ні адна з еўрапейскіх нацый не мае такіх піўных традыцый і такога

глыбокага шанавання да піва. Лідскае піва немцы ацанілі, як адно з лепшых на акупаванай тэрыторыі. Цяжка меркаваць аб аб'ёмах выпуску піва ў 1915-18 гадах, можна здагадвацца, што яны былі не меншыя за раней дасягнутыя. Сітуацыя значна пагоршылася ў 1919-21 гадах, калі Лідчына апынулася ў зоне баявых аперацый польска-савецкай вайны.

Тым не менш, у жніўні 1920 г. у дні паходу чырвоных войскаў на Варшаву, працавалі абодва піваварныя заводы.

Да нацыяналізацыі справа не дайшла. У дакладной запісцы Лідскаму павятоваму ваенрэвкаму ад 5 жніўня 1920 г. загадчык эканамічнага аддзелу М. Пупко і справавод М. Беркавіч дакладвалі, што піваварныя заводы пераходзяць на падрыхтоўку безалкагольнага соладавага напою і хлебнага квасу на гатаванай вадзе з артэзіянскіх студняў. Яшчэ толькі пераходзяць. Савецкай уладзе заставалася жыць на Лідчыне 1,5 месяцы.

## 8. Піўзавод Пупко ў гады міжваеннага дваццацігоддзя.

З 1922 года піўзавод пачаў называцца ***"Мейлах Пупко і кампанія, паравы піваварны завод у горадзе Ліда"***. У 1929 *г.* завод атрымлівае адрас: ***Сувальская, 88***. На заводзе быў тэлефон з нумарам ***26***. Па гэтым адрасе размяшчаліся вытворчасць піва і газаваных вод, вальцовы млын, механічная пільня (піларама). Каля 10 чалавек працавалі на млыне, чалавек да 20 на пілараме. Абсталяванне да лесапільнай вытворчасці М. Пупко, мабыць, набыў у немцаў, у гады акупацыі яны нябачанымі да той пары тэмпамі выразалі прынёманскія бары і дубровы.



***Сядзяць: у цэнтры Мейлах Пупко, злева і справа ад яго сыны Марк і Сямён***

Па меры аднаўлення гаспадарчай дзейнасці цікавасць да піва ў мясцовага насельніцтва ўзрастала, але змянілася мода: гараджане пачалі аддаваць перавагу кавярням, лікёрам, добрым вінам. Сяляне ж па-ранейшаму і асабліва ў кірмашовыя гарачыя дні аддавалі перавагу добраму піву.

Бочкі з півам з піўзавода Пупко на вялікай платформе, якую цягнулі двое магутных коней, *"развозіў атлетычнага складу мужчына з вялікай рудой барадой па імені Балагула. Меў жалезны арганізм і дужую галаву. Мог выпіць зараз вядро піва, пасля чаго выціраў фартухом вусны і бараду і, як ні ў чым не бывала, ехаў з бочкамі піва далей. Быў сам бочкай без дна". (Naruszewicz W. Wspomnienia lidzianina. Warszawa. 2001.)*

Рабочых Мейлах Пупко падбіраў найлепшых. Бондар Казімір Іосіфавіч Вансевіч (1903 - 1991) быў запрошаны на завод у 1930 г. з Вільні. М. Пупко адмыслова ездзіў па яго ў Вільню, забяспечыў жыллём і плаціў па 10 злотых у дзень.

У канцы 1934 года ў веку 74 -75 гадоў памёр Мейлах Носелевіч Пупко, ураджэнец Ліды, купец 1-й катэгорыі, адзін з самых таленавітых менеджараў Лідскага бізнэсу 20-га стагоддзя. Яго сыны Марк і Сямён на ўмовах дамовы ад 16 красавіка 1930 года ўступілі ў валоданне прадпрыемствам у роўных долях і з правам кожнага ставіць подпіс пад афіцыйнымі дакументамі. Абодва яны атрымалі адукацыю ў Бруселі ў тэхналагічным інстытуце: старэйшы Марк - на лясным факультэце, малодшы - на харчовым. Адказным кіраўніком піўзавода быў Сямён, а Марк быў яго намеснікам.

Браты механізавалі вытворчасць і пабудавалі ўласную магутную электрастанцыю. Завод побач з півам пачаў выпускаць газаваную ваду.

Для атрымання піва і газаваных напояў выкарыстоўвалася вада з адмыслова выкапанай студні глыбінёй 28 метраў. Для падачы вады выкарыстоўвалася адмысловая помпа, якая дазваляла падняць каля 20000 літраў у гадзіну. Вада праходзіла праверку на прадмет наяўнасці шкодных рэчываў.

Тэрыторыя піўзавода павялічылася да 1,8 га. Завод размяшчаўся ў двух мураваных будынках агульнай плошчай каля 1,7 тыс. м2. У будынку № 1 размяшчалася кантора, каса, памяшканне для мыцця бутэлек, склад гатовага піва, памяшканне для награвання вады, вагоўня, вадзяная помпа, машыннае аддзяленне, кузня, у склепе



***Урачыстасць на Лідскім піўзаводзе Пупко (за польскім часам)***

знаходзілася качагарка. У будынку № 2 знаходзілася памяшканне для працаўнікоў, вытворчае памяшканне газаваных водаў, тры цэхі ферментацыі, 16 кадзяў (вялікія адчыненыя ёмістасці), цэх разліву піва, склад піва ў бочках і бутэльках, памяшканне для разліву піва ў бутэлькі і ў склепе леднікі. У памяшканні, дзе знаходзіўся фільтрацыйны цэх, размяшчаліся паветраная і прэсавая помпы, медны кацялок, фільтр, прэс для фільтравання і кадзі. У памяшканні па разліве піва знаходзіліся разлівачны апарат, машына па закаркоўванні бутэлек і бочка для коркаў. Па тэхналагічнай забяспечанасці піўзавод братоў нічым не саступаў аналагічным польскім прадпрыемствам.

На прадпрыемстве склалася свая сістэма тэхналагічнай вытворчасці піва. Для яго вырабу скарыстоўваўся ячмень, хмель, дрożджы, вада і адпаведнае абсталяванне. Галоўнымі этапамі былі: саладжэнне; варэнне; падрыхтоўка сусла; вытрымка; фільтраванне; разліў гатовага піва. Вельмі строга вытрымліваліся патрабаванні да кожнага з працэсаў. Ячмень павінен быў мець ясна-жоўты колер і свежы пах. Змест бялку не павінен быў перавышаць 9 - 10%, вільготнасць - 15 %. Падрыхтоўка соладу ставіла мэтай выцяжку найбольшай колькасці экстракту, г.зн. тых субстанцый, якія пераходзяць у сусла ў рошчынным стане.

У 1934 г. пасля службы ў польскім войску на завод прыйшоў наймацца Міхась Крушэўскі. *"Прымаў Міця Пупко, ён жыў на тэрыторыі завода. Невысокі, здаровы, глядзеў за ўсім. Паставіў мяне ў першы дзень пілавінне падкідваць уверх. Паглядзеў, што добра працую, сказаў - заставайся на стала. Адтуль перавёў мыць бутэлькі, затым наліваць піва ў бутэлькі. Стары варшчык памыляўся ў працы. Калі я працу зразумеў, Міця старога варшчыка звольніў, пакінуў мяне. Я пачаў варыць піва".*

У 1937 годзе на піўзаводзе працавалі 40 чалавек, 10 у адміністрацыі і 30 рабочых. Грошы рабочыя атрымлівалі кожны тыдзень па суботах. У будныя дні працавалі з 7 да 16 гадзін, у суботу да 12 гадзін. Абедзенны перапынак доўжыўся адну гадзіну. Калі была патрэба ў працы пасля асноўнага працоўнага часу, то аплочвалі ў падвойным памеры. Заробак складаў 4 злотыя ў дзень. У якасці часовых рабочых запрашаліся 16-17-гадовыя падлеткі.

*"Калі прадукцыя танела, то гаспадары зразалі заробак. У летні час, калі попыт на піва павялічваўся, мы прад'яўлялі гаспадару патрабаванне аб павелічэнні заработнай платы. Для гэтага мы ўсе аднадушна змаўляліся паміж сабой і не прыступалі да працы датуль, пакуль гаспадар не выконваў нашы патрабаванні. Гаспадар выклікаў паліцыю. Паліцыя вяла перамовы з працоўнымі. Гаспадар абяцаў працоўным часткова задаволіць іх патрабаванні. Калі мы патрабавалі павялічыць зарплату на адзін злоты ў дзень, то гаспадар згаджаўся павялічыць толькі на 0,5 злотых. А паліцыя вышуквала завадатараў штрайку, але мы нікога не выдавалі, адказвалі, што ўсе зараз разам*

*выступаем. Часам канфліктныя сітуацыі развязваліся без умяшання паліцыі, так сказаць, па добраму, працоўныя дамаўляліся з гаспадарамі аб задавальненні іх просьбаў".*

У 1936 г. падчас штрайку на фабрыцы "Ардаль" у знак салідарнасці з штрайкоўцамі працоўныя піўзавода не працавалі два дні і запатрабавалі ў свайго гаспадара павелічэння заработнай платы. Гаспадар павялічыў зарплату на 0,5 злотых. Піўзавадчане дапамагалі штрайкаваўшым абутнікам грашыма. *"Працоўныя абутковай фабрыкі падчас 12-ці тыднёвага штрайку прыходзілі да нас кожную суботу па 2-3 чалавекі і збіралі грошы. Мы давалі па 2-3 злотыя, хто колькі зможа".*

У 1938 годзе завод выпускаў чатыры гатункі піва ў аб'ёме 6135 гтлітраў: светлае (5780), дубэльтавае (191), хмельнае (29), цёмнае (135) а таксама 1104 гтл напояў: ліманад (801), квас у бутэльках (116) і газаваную ваду (187); перапрацаваны лес у аб'ёме 2093 м3.

У 1939 годзе было зварана 7360 гтл піва і выпушчана 1450 гтл напояў. У тым ліку піва светлае (7000), дубэльтавае (200), хмельнае (35), цёмнае (125), ліманад 1000, квас у бутэльках 250, газвада -200. Перапрацаваны лес у аб'ёме 1700 м3. На 1 л. хмельнага піва шчыльнасцю ў 12% расходвалася 211 грамаў ячменю, 19,1г. соладу; на цёмнае шчыльнасцю 13% - 215 г. ячменю і 20 г. соладу; на светлае шчыльнасцю 11%- 250 г. і 18,1 г.; на самае дарагое дубэльтавае шчыльнасцю 14% -360 г. ячменю і 23,2 г. соладу. Ячмень закуплялі ў Куявах і Роўна, хмель на Валыні.

## 9. 1939. Бальшавікі нацыяналізуюць піўны завод.

26 лістапада 1939 года на падставе Пастановы Народнага сходу Заходняй Беларусі "Аб нацыяналізацыі прамысловых прадпрыемстваў" і Пастановы Часовага Кіравання горада Ліды завод перайшоў у веданне Брадтрэсту Народнага Камісарыяту харчовай прамысловасці БССР. З Менска прыехаў кіраўнік Брадтрэсту Гурвіч, адхіліў братоў Пупко ад кіравання заводам і забраў усе грошы. Былыя гаспадары засталіся працаваць на сваім прадпрыемстве ў якасці дзяржаўных службоўцаў. *"Нам дазволілі працаваць службоўцамі, але абклалі рознымі падаткамі ... Мы зразумелі, што для нас тут месцы няма. З'ехалі ў Вільню".*



**Дыбоўскі Ч.М.**

Да дня нацыяналізацыі на заводзе было занята 38 чалавек: чатыры майстры, сем службоўцаў і дваццаць два рабочыя. Прозвішчы 16 з іх удалося ўстанавіць. Бондары: Вансевіч Казімір Іосіфавіч 1903 г.н. і Арэхва Рыгор Мікалаевіч 1909 г.н; брадзільшчыкі: Воўк Аляксандр Мечыслававіч 1906 г. н, Дыбоўскі Часлаў Мартынавіч 1902 г. н, Яневіч Уладзімір Міхайлавіч 1903 г. н, Жукоўскі Адольф Дамінікавіч 1893 г. н.; фільтроўшчык Новік Міхась Міхайлавіч 1908 г. н., саладоўшчыкі: Ёдзь Кастусь Міхайлавіч 1912 г. н. і Май Іосіф Пятровіч 1903 г. н, сушняк Шот Антон Іосіфавіч 1900 г. н., слесар Кашка Іосіф Францавіч 1908 г. н., каваль Горбач Уладзімір Міхайлавіч 1891 г. н, маляр-шкляр Міхайлоўскі Гаўрыіл Каспeравіч 1895 г. н., Крушэўскі Міхась Іванавіч 1912 г. н; Скрэнда Кастусь Міхайлавіч 1913 г.н, вартаўнік Майсевіч Аляксандр Лявонавіч 1885 г.н. Яшчэ пяць чалавек працавалі на пільні, сярод іх: рамшчык Сямашка Казімір Фадзеевіч 1908 г. н. і цясляр Коўза Іосіф Мацвеевіч 1893 г. н.



**Крушэўскі М.І.**



**Май І.П.**



**Майсевіч А.Л.**

Правялі сход, растлумачылі, што прадпрыемства зараз належыць народу. Дырэктарам вылучылі рабочага Адольфа Жукоўскага, яго намеснікам Белавусава, папрацавалі яны на пасадах прыкладна месяц. Затым з Менска

прыслалі дырэктара па прозвішчы Прога Г.Е.

У 1940-41 гг. завод працаваў з поўнай нагрузкай па піву, напоях і лесапілаванні. Палівам для завода з'яўляліся адыходы пільні, электраэнергіяй з боку практычна не карысталіся - завод меў сілавую станцыю. Прадукцыйнасць вытворчых цэхаў была наступнай. Прадукцыйнасць саладоўні раўнялася 755 тон у год, соладасушня на 30 % перавышала магчымасці саладоўні і здольная была штосутачна выпускаць 3,6 тоны сухога соладу. Меліся парасткаадбіўная і паліровачная машыны, двухвальцавая драбілка прадукцыйнасцю па 1000 кг/гадзіну. На адбіванне парастакаў высушаны солад падаваўся ўручную.

Варачнае аддзяленне складалася з 4-х посуднага парадку: заторны чан ёмістасцю 123,83 гтл, заторны кацёл - 48.86 гтл, фільтрацыйны чан - 158.5 гтл, сусლаварны - 225 гтл. На варэнне бралася 2,8-3,0 т. соладу. Варэнне праводзілася агнявым спосабам. Гарачага сусла атрымлівалася 195-200 гтл. Для астуджэння сусла меліся дзве талеркі ёмістасцю 200 гтл. У брадзільні два арашальных апараты адкрытага тыпу, было ўстаноўлена 12 драўляных брадзільных чанаў ёмістасцю 47-52 гтл. Агульная магутнасць брадзільных чанаў 600 гтл.

Астуджэнне брадзільнага сусла праводзілася пры дапамозе швімяроў, загружаных лёдам, якія ўкладваліся ў сумежным з брадзільняй лагерным склепе. Зялёнае піва з брадзільных чанаў падавалася ў лагерны склеп ратацыйнай помпай. У лагерным склепе ўсяго мелася 81 лагерная фаса. Агульная ёмістасць фас 3100 гтл. Лагерны склеп астуджаўся лёдам, які ўкладваўся ў прастору паміж фасамі і на фасах.

Падача піва з фас на фільтр праводзілася друклеглерам прадукцыйнасцю 30-40 гтл/гадзіну. Фільтраванне праводзілася на 16-ці рамным фільтры, прадукцыйнасцю 15-20 гтл/гадзіну.

Разліў бачкавога піва праводзіўся на 3-х ражковым ізабараметрычным апараце прадукцыйнасцю 30-40 гтл/гадзіну. Напоўненыя бочкі з падвала падымаліся з дапамогаю ручнога пад'ёмніка (вінды, ліфта), такім жа чынам апускаліся вымытыя бочкі. Мыліся бочкі ўручную. Бутэлькі мыліся таксама ўручную, яршамі. Для разліву піва ў бутэлькі мелася разліўная машына рэвальвернага тыпу з 16-цю ражкамі прадукцыйнасцю 1200 бутэлек у гадзіну. Акрамя гэтага мелася 4-х ражковая разліўная машына і мыйная машына прадукцыйнасцю 1000 бутэлек у гадзіну.

Меўся лакамабіль устаноўкі 1928 года сістэмы Вольфа магутнасцю 52 кВт і паравы кацёл тыпу "Ланкамір" з паверхняю нагрэву 100 м2. Агульная магутнасць усіх матораў складала 70 кв/гадзіну. Усё абсталяванне прыводзілася ў рух ад агульнай трансмісіі.

Меліся тры склады: зернесклад ёмістасцю 200 тон; склад млына да 100 тон; склад хмелю і старых бочак -100 м2. У транспарце завода меўся адзін конь. Піва выпускалася з вытрымкай 20-25 дзён.

У 1940 годзе было выпушчана 28199 гтл. піва: жыгулёўскае бачкавое 24036 гтл., рускае бачкавое 2898 гтл, украінскае 132 гтл, жыгулёўскае бутэлькавае 976 гтл, рускае бутэлькавае 160 гтл. Напоі 4952 гтл: газвада 51 гтл, квас журавінавы 1656 гтл, квас хлебны 620 гтл, напоі натуральныя - 875 гтл, напоі штучныя -1000 гтл, крэмсода - 741 гтл, сіроп - 9 гтл. Солад 72 тоны. Лесаматэрыялы 1274 м3. На заводзе працавалі 101 чалавек: рабочых 64, ІТР - 8, службоўцаў 18, МАП 10 і 1 вучань.

У параўнанні з 1938 г. вытворчасць піва павялічана ў 4, 6 раза, напояў у 4,5 раза.

План 1940 г. быў выкананы на 101,9%.

## 10. Завод пад кантролем нямецкага інжынера Іаяхіма.

Падчас Другой Сусветнай вайны завод не пацярпеў і не быў разбураны. Яго не бамбілі ні нямецкія, ні савецкія лётчыкі. Уладальнікі завода Сямён і Марк Пупко са сваімі сем'ямі ў жніўні 1941 г. вярнуліся ў Ліду. Дабіраліся яны пешшу лясамі ўздоўж Віленскага гасцінца. Уся сям'я размясцілася ў сваёй кватэры на тэрыторыі завода.

Нямецкае войска 40-х гадоў самазабыўна любіла піва, таму на завод быў накіраваны інжынер Іаяхім. Перад ім была пастаўлена задача арганізаваць вытворчасць піва і наладзіць выпуск чыгуначных шпалаў.

Піўзавод працаваў з нязначнай загрузкай. У тыдзень праводзіліся 2-3 варкі піва, шчыльнасць піва складала 7-9 градусаў. Піва развозілася ў вайсковыя часткі, якія дыслакаваліся ў Лідзе і наваколлях, мясцоваму насельніцтву не прадавалася.

Іаяхім аказаўся прыстойным чалавекам, не заражаным атрутнай нацысцкай ідэалогіяй. Ён укамплектаваў вытворчасць ранейшымі працаўнікамі і спецыялістамі, не пабаяўся прыцягнуць дзесяткі яўрэяў, у тым ліку ранейшых уладальнікаў.

*"Тэрыторыя завода аказалася для нас аазісам. Тут мы жылі і працавалі нармалёва, нягледзячы на тое, што ў горадзе лютавалі нацысты. Памятаем, як мы ўсе 42 яўрэйскія рабочыя, зладзілі вялікодны сейдар на заводзе ўвесну 1942 года. Праз некалькі тыдняў, 8 траўня, калі ў гета праводзілася крывавая "акцыя", Іаяхім не пусціў на завод эсэсаўцаў, якія хацелі нас забраць. У далейшым яго адправілі на фронт. На яго месца даслалі Ганенберга, ад'ютантам якога была жанчына Меркел - садыстка па натуры..."*

Тадэвуш-Казімір Казіміравіч Вансевіч пачаў працаваць на піўзаводзе ў 1943 г., калі яму было 14 гадоў. Яго ўключылі ў спіс на вываз у Нямеччыну, і бацька аформіў на завод: *“Немцы плацілі маркамі, на абед давалі па літры піва. Зарплату атрымлівалі раз у месяц. Нямецкі дырэктар Хенеберг (Хонеберг) - высокі, здаровы, вайсковец, хадзіў, глядзеў парадак. Ён інвалідам быў, правай рукой не пісаў. І немка была маладая Меркель. Яна ў піўной справе цяміла. Немцы на завод прыходзілі ў 7 гадзін. Бралі коней, сёдлы на коней і паперліся, каталіся па Расляках.*

*Піва варыў Міця Пупко. Слабое піва было - I градус, моцнага не рабілі. Больш соладу, менш ячменю - піва слабое. У бутэльках з гумовым коркам. Немцаў мы баяліся. Як партызан не было - добра жылі, як партызаны з’явіліся - звяры зрабіліся”.*

### 11. 1943. Іаяхім папярэджвае пра небяспеку.

*“У 1943 г. на завод прыехаў Іаяхім атрымліваць піва для сваёй вайсковай часткі. Ён папярэдзіў нас, што пагражае смерць, і трэба ўцякаць у лес…”*

16 верасня 1943 г. на піўзавод прыбылі эсэсаўцы з Слоніма. *“Абвінавацілі нас у тым, што піва атручанае… што мы хаваем золата… Потым правялі сегрэгацыю ўсяго персаналу: яўрэі асобна - хрысціяне асобна.*

*Загад быў - на месцы не страляць. Аднак латышскія салдаты ўвайшлі на завод, страляючы. У выніку быў паранены ў нагу Хаім Ажахоўскі. Спадарыня Ажахоўская… схапіла трохгадовага ўнука і ўцякла ў бок Лідзейкі, перайшла яе ўброд і дабралася да лесу. Хаім Пупко з жонкай уцёк на гарышча аднаго з будынкаў завода. Адтуль скокнуў цераз плот у суседняе балота, дзе хаваўся да цямна. Уначы дабраўся да лесу, потым да лагера Бельскага. Яго жонка прыбыла ў атрад Бельскага пазней. Выратавалася таксама сям’я Пятлюк. Бацькі хаваліся ў знаёмага селяніна ў Дуброўні. Іх дзеці, дачка 13 гадоў і сын 16 гадоў схаваліся дзесьці асобна. Потым сабраліся ўсё разам у атрадзе Бельскага.*

*Тым часам наш блокфюрер Ганенберг кляўся, што нас перавозяць для працы ў іншым месцы (“клянуся Богам і фюрэрам…”). Людзей сартавалі.*

Паводле аповяду К-Т. Вансевіча: *“Яўрэі з піўзавода паўцякалі. Іх хацелі забраць, але нешта не выйшла ў немцаў. Кожную ноч па 3-4 яўрэі паступова ўцякалі”.*

Раніцай 17 верасня застаўшыхся півавараў прывялі на чыгуначную станцыю, пагрузілі ў асобны вагон. Увечар 17 верасня апошніх лідскіх яўрэяў - больш трох тысяч чалавек - павезлі ў Майданак.

### 12. 1943. Міця і Сямён Пупко з жонкамі выскокваюць з цягніка, які ішоў у Майданак.

*“ У нас не было ніякіх ілюзій адносна нашага лёсу…Адзіны шанец выратавацца - скакаць з вагона на хаду. Гэта не лёгка, і не ўсякі ў стане гэта зрабіць, 12 чалавек з нашага вагона скокнулі. Мой брат Міця разам са сваім маленькім сыночкам, яго жонка Ружа. Іх дачка ў апошнюю хвіліну спалохалася і засталася ў вагоне… Саскочылі Сталавіцкі, яго жонка з сынам і дачкой, варшаўскі цырульнік з жонкай, партызан, які вярнуўся з лесу ў гета (у далейшым застрэлены рускімі) і я з жонкай і нашай дачкой. Гэта адбылося ў раёне ст. Масты на Нёмане. Натуральна мы не маглі скакаць адначасова і апынуліся на мясцовасці ўрассыпную. Аб месцы сустрэчы дамовіліся загадзя. Толькі праз 8 дзён сустрэліся ў раёне Беліцы. Хаім Ажахоўскі хацеў з намі скакаць, але з-за параненай нагі не быў у стане гэта зрабіць...”*

Маша Коэн-Пупко ўлетку 2005 г. распавядала, як адважны малады чалавек вырваў дошку з столі, вылез наверх і здолеў на хаду адчыніць дзверы. Бацька ўзяў Машу на рукі і скокнуў. Следам скокнулі маці, дзядзька Міця, цётка Ружа і іншыя людзі. Немцы пачалі страляць, і больш ніхто не адважыўся выскачыць.

*“... Па дарозе мы нечакана сустрэлі эсэсаўца і жудасна спалохаліся. Да нашага вялікага здзіўлення ён нас не затрымаў. Супакоіў, сказаўшы: “Гэта робяць іншыя”. Асцярог, што надыходзяць цяжкія часы, распавёў таксама пра транспарты з яўрэямі, якія ідуць на захад. Раіў уцякаць. Даў нам тры булкі хлеба і адпусціў. Праз некаторы час пасля гэтай сустрэчы мы дабраліся да лагера камандзіра Бельскага”.*

У Майданак паехалі Фрыда (Франя) Пупко 1901 г. н., Ганна Зарэцкая (у дзявоцтве Пупко) 1902 г. н. і яе двое дзяцей, Ной Пупко.

### 13. 1943-44. Браты Пупко ў атрадзе Туўі Бельскага.

У атрад Туўі Бельскага ў розны час дабраліся дзевяць лідскіх Пупко: Самуіл Рахмілевіч 1878 г. н., Кейля Майсееўна 1886 г. н., Хаім Захаравіч 1907 г. н., Сямён (Сіёма, Шымон) Мейлахавіч 1909 г. н., Рахміель Шмуйлавіч 1914 г. н., Шура Самуілаўна 1914 г. н., Хінха Самуілаўна 1915 г. н., Маша Сямёнаўна 1936 г. н., Іосіф Моўшавіч 1939 г. н.

Як успамінае Маша Пупко, якой тады было 6 гадоў, жылі яны ў зямлянцы, у іх былі адны нары - у зямлянцы жылі яшчэ некалькі сем’яў. Суп - вада з бульбачкай і косткі -варылі ў катле. Мама плакала ад голаду. Партызанскі камандзір высокага рангу даў нам карову. У лагеры была

